Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



## № 4
## КРАСАВІК




МЕНСК — 1927

**М. Галадзед**

# Перавыбарная кампанія саветаў і далейшыя задачы парторганізацый

Заканчваецца паласа зьездаў саветаў—паласа перавыбарнай кампаніі. Пачынаючы ад перавыбараў сельсаветаў і канчаючы ўсебеларускім Зьездам—мы правяраем усе тыя дасягненьні, якія маюцца за апошні год у галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва; правяраем, як у рэчавістасьці на практычнай працы ажыцьцяўляецца лёзунг партыі па ажыўленьні працы саветаў. Гэтым лёзунгам перад усімі організацыямі ставіліся задачы—далейшага ўмацаваньня дыктатуры пролетарыяту, узьняцьця політычнай актыўнасьці працоўных мас, уцягненьне гэтых мас у абмеркаваньне важнейшых мерапрыемстваў партыі і ўлады і ўсё большага ўцягненьня шырачэзных пластоў рабочых і працоўнага сялянства ў практычную працу соцыялістычнага будаўніцтва, на аснове разьвіцьця савецкай (пролетарскай) дэмократыі, на аснове разьвіцьця ініцыятывы і самадзейнасьці мас. Наколькі, організацыямі КП(б)Б уясьнена сутнасьць гэтых задач, у якой меры мы падышлі ад іх ажыцьцяўленьня ў рэчавістасьці — гэта асноўнае пытаньне якое павінна паставіць перад сабою кожная акруговая, раённая организацыя і кожная партыйная ячэйка. Калі мець на ўвазе (калі судзіць) папярэднія (праўда яшчэ няпоўныя) даныя абітогах перавыбарнае кампаніі, то ўжо можна зрабіць агульны вывад што ў нас маецца шэраг посьпехаў у ажыцьцяўленьні шэрагу задач, пастаўленых лёзунгам—„ажыўленьне саветаў". Бясспрэчным зьяўляецца тое, што актыўнасьць шырокіх пластоў рабочых і работніц у апошнюю кампанію перавыбараў Гарсаветаў значна ўзьнялася ў параўнаньні з мінулым годам. Справаздачна перавыбарная кампанія паказала, што гэтая актыўнасьць узьнялася яшчэ на адну ступень, гэта зн. на ступень строга-дзелавога характару; калі рабочыя масы патрабавалі ад Гарсаветаў і ад сваіх дэпутатаў ясных і точных адказаў аб праробленай працы, аб посьпехах і недахопах у гаспадарчым і культурным будаўніцтве. Строга дзелавы падыход, падмацоўваемы значным павышэньнем жывога інтарэсу з боку рабочых мас—ёсьць факт бясспрэчны, які праходзіў чырвонаю істужкаю цераз усю спраназдачна-перавыбарную кампанію. Асабліва гэта яскрава выявілася ў абгаварэньні наказаў і ў абгаварэньні кандыдатур у новы склад Гарсаветаў.

Павышэньне актыўнасьці працоўнага сялянства пад час апошняй перавыбарнай кампаніі сельсаветаў, на раённых і акруговых зьездах Саветаў таксама паказвае аб тым, што партыя мае значныя дасягненьні ў справе разьвіцьця шырокай грамадзкасьці навакол работы і перавыбараў саветаў. Характэрным зьяўляецца тая абставіна, што побач з бязумоўным праяўленьнем самадзейнасьці мас амаль на ўсіх выбарчых сходках праяўляліся павышаныя запатрабаваньні да працы саве-

таў і выканаўчым камітэтам. Каранымі пытаньнямі на раённых і акруговых зьездах саветаў—былі пытаньні аб пашырэньні школьнай сеткі, культурна-асьветных устаноў, пытаньні аховы здароўя, пытаньні быту і г. д. Такім чынам культурна-соцыяльныя запатрабаваньні мас зьяўляюцца зараз бадай на першым месцы, а гэта гаворыць аб тым, што побач з паляпшэньнем экономічнага дабрабыту ўсё больш растуць і культурныя запатрабаваньні працоўных. Побач з агульным павышэньнем актыўнасьці сялянскіх мас, асабліва выразіўшайся навокал перавыбарчай кампаніі, належыць таксама прасьлядзіць наколькі ўзьнялася актыўнасьць пролетарскіх і поўпролетарскіх пластоў вёскі і актыўнасьць беднаты. Няма сумленьня ў тым, што ў агульным пад'ёме актыўнасьці значна ўзрасла актыўнасьць і батрацка-бядняцкіх пластоў, якія найбольш організована,пад кіраўніцтвам партыйных організацый выступалі за правядзеньне сваіх кандыдатур у саветы, супроць прадстаўнікоў і стаўленьнікаў кулацтва. Бясспрэчным зьяўляецца тое, што асноўную ролю ў справе організацыі беднаты і батрацтва вёскі адыгралі папярэднія выбарчай кампаніі сходы беднаты і ўся экономічная работа з беднатой, якую партыя праводзіла ў апошнія гады ў вёсцы.

Такім чынам, адну з задач,—павышэньне актыўнасьці пролетарыяту і працоўнага сялянства, узмацненьне ролі ў савецкай грамадзкасьці вёскі бядняцкіх мас—мы пачалі выконваць у рэчавістасьці і не бяз посьпеху. Але задачы па ажыўленьню саветаў далёка ня вычэрпваюцца толькі посьпехамі ў перавыбарнай кампаніі. Гэта ёсьць політычныя дасягненьні, якія настойліва *трэба замацаваць штодзённай практычнай працай гарадзкіх і сельскіх саветаў. Бяз узмацненьня практычнай чыннасьці саветаў, бяз уцягненьня ў іх штодзённую работу шырокіх пластоў працоўных, без сыстэматычнай мобілізацыі грамадзкай ініцыятывы і разьвіцьця самадзейнасьці навакол саветаў—маючыяся політычныя посьпехі ня могуць быць замацованы і пастаўленыя перад партыяй задачы выкананы ня будуць. У наладжваньні практычнай працы гарадзкіх і сельскіх саветаў, у абавязковым уцягненьні ў іх работу ня толькі ўсіх выбарных членаў саветаў, але і шырокіх мас рабочых і сялян—у гэтым далейшыя, першаступянёвыя задачы організацыі.*

Вопыт працы Гарсаветаў і с.-саветаў паказаў, што мы ўжо знашлі шэраг практычных шляхоў для наладжваньня іх працы. Работа сэкцыі гарсаветаў і шэрагу гарадоў ужо мае значныя дасягненьні. Работа некаторых сельсаветаў (што відна з матэрыялаў спэцыяльнага абсьледваньня) прадстаўляе найлепшыя прыклады, якія абавязкова трэба выкарыстаць для таго, каб пасунуць уперад працу адсталых раёнаў. Але як у першым (у працы Гарсаветаў), так і ў другім выпадку (працы сельсаветаў), ёсьць яшчэ больш недахопаў чым дасягненьняў. Напрыклад, работа камісій сельсаветаў і асабліва работа рэвізыйных камісій амаль ні ссунута з месца, і вопыту ў гэтай справе ў нас ніяк недастаткова. На гэтым вучастку—на працы камісій сельсаветаў і сэкцый гарсаветаў—мы павінны сконцэтраваць максымум увагі, гэта зн., цераз гэтыя органы пры наладжваньні іх працы мы можам (і павінны) уцягнуць у практычную будаўнічую працу шырокія пласты працоўных.

У вёсцы асабліва неабходна будзе ўдзяліць увагу стварэньню актыву і ўцягненьню яго ў розныя віды практычнай працы.

Кадравы склад жаночага актыву, што відно з усіх даных, да гэтага часу яшчэ надта маналікавы, тут мы рухаемся недапушчальна ціха. Мала ўдзяляем увагі дзелавому выхаваньню сялянак на практыч-

най працы. Адсюль і тое, што процант жанчын у складзе новаабраных сельсаветаў у большасьці выпадкаў панізіўся. Канешна, гэта зьяўляецца вынікамі таго, што ні партячэйкамі, ні сельсаветамі не ўдзялялася да гэтага часу ўвагі дзелавому выхаваньню тых дэлегатак-сялянак, якія прымацованы, ці павінны быць прымацованы к рознага роду ўстановам.

Такім чынам, *побач з чарговымі задачамі па ажыўленьню практычнай працы гарадзкіх і сельскіх саветаў, неабходна сконцэнтраваць увагу парторганізацый на пашырэньне кадраў актыву наўкола іх працы.* Ажыўленьне саветаў само сабой палагае стварэньне беспартыйнага актыву, які зьяўляўся-б асноўным зьвяном злучаючым партыю з шырокімі масамі і які зьявіўся-бы асноўнай апорай у працы масавых арганізацый.

---

В. Нартыш-Блук

# Аб некаторых недахватах у працы Савецкіх ячэек

Ня гледзячы на тое, што пры правядзеньні партыйнай праверкі у 1924 г. нявытворчых ячэек была праведзена, уагуле, досыць вялікая інструкцыйная праца і даны былі паказаньні да зьнішчэньня гэтых недахватаў у працы ячэек, усё-ж і на 3-ім годзе пасьля гэтай праверкі, назіраецца яшчэ цэлы шэраг недахватаў у працы ячэек.

Асноўнымі недахватамі ў працы ячэек у шмат якіх выпадках зьяўляецца наступнае: неналаджанасьць плянавай работы, адсутнічаньне належачага вучоту работы і праверкі выкананьня даваемых заданьняў ячэйкамі, слабая організацыйна-гаспадарчая дапамога вёсцы па лініі шэфства, слабое кіраўніцтва ячэйкамі ЛКСМ, ня досыць сур'ёзныя адносіны ў працы сярод жанчын, невыстарчальная ўвага к рабоце сярод беспартыйных, выпадкі фармальных адносін да справы і, нарэшце, самы асноўны недахват у працы Савецкіх ячэек—гэта неналаджанасьць кіраўніцтва ў галіне паляпшэньня і рацыяналізацыі Савецкага апарату. У гэтых адносінах назіраюцца выпадкі незразуменьня задач і форм гэтай работы. Эканомпраца вельмі часта выражаецца толькі ў заслухоўваньні індывідуальных дакладаў загадчыкаў аддзеламі і ўстаноў па пытаньнях рэжыму эканоміі, што напэўна, у падлічэньні дае вельмі мала вынікаў, і не дае магчымасьці абмеркаваць тыя практычныя мерапрыемствы, якія па мясцовых умовах зьяўляюцца жыцьцёва неабходнымі.

Да адмоўных момантаў працы неабходна аднесьці яшчэ тое, што *пляны прац* складаюцца ў кожнай ячэйцы па асабліваму мэтаду—то ў відзе пералічэньня пытаньняў, мяркуемых да абгаварэньня на агульных сходах, то ў відзе дырэктыўных паказаньняў, як-та:— „узмацніць працу сярод жанчын", „правесьці ў такі-та тэрмін толькі-та сходаў", „замацаваць кіраўніцтва сярод ЛКСМ" і г. д. Непаказваецца канкрэтна, што іменна трэба зрабіць, якую працу правесьці дзеля гэтага. Ёсьць яшчэ пляны дэкляpацыйнай уласьцівасьці з так званай „высокай палітыкай" у адцягнутай форме, з паказаньнем задач, стаячых перад партыяй і г. д. Аб канкрэтнай працы, якая намячаецца на надыходзячыя месяцы, паказваецца мала. Пляны гэтыя дрэнна прапрацоўваюцца, да абмеркаваньня іх партыйная маса ўцягваецца і праца па гэтаму пляну носіць нявыкрасьлены, і вельмі часта, выпадковы характар. Іншы раз, пляны гэтыя надмерна заграмажджаны шматлікавымі пытаньнямі, дзякуючы чаму, прапрацоўка іх праходзіць павярхова, формальна і плян выконваецца толькі на 40—50%.

Інструктаваньне ў галіне правільнага і мэтазгоднага складаньня пляну прац ячэек Райкомамі праводзіцца невыстарчальна і гэтыя дэфэкты выяўляюцца толькі пры абсьледваньні ячэйкі, а то і зусім непрыкмячаюцца.

*З падлікам працы ячэек* таксама нядобра абстаіць. Вучот асабовага складу ячэйкі не заўсёды на належнай вышыні. Назіраюцца выпадкі, калі ячэйка дакладна ня ведае, колькі ў яе членаў—выбыўшыя ўжо, лічацца на вучоце і наадварот, прыбыўшыя ў ячэйку не запісаны. Тлумачыцца гэта часткаю тым, што гэтыя таварышы, у некаторых выпадках, адкамандыроўваюцца без адкрэпіцельных талёнаў Райкому і ячэйка даведваецца аб гэтым адкамандыраваньні з значным спазьненьнем. Кепска вядзецца вучот даваемым партзаданьням паасобным членам ячэйкі. Няма сыстэматычнай праверкі выкананьня іх, індывідуальныя справаздачы мала заслухоўваюцца, або зусім не заслухоўваюцца. Апроч таго няма падліку выпісваемай членамі ячэйкі літаратуры, дзеля гэтага ячэйка слаба ведае аб тым, якая літаратура выпісваецца і чытаецца ўсёй партыйнай масай, і ці ўсе члены ячэйкі выпісваюць газэты і іншую літаратуру.

*У галіне шэфпрацы* ўсё яшчэ назіраюцца т. зван. „гастралёрствы“. Выяжджаюць у вёску памітынгаваць у кампанейскім парадку. Ёсьць, праўда, дасягненьні ў сэнсе падняцьця культурнага ўзроўню вёскі—шмат утворана хат-чыталень, патрачана на гэта шмат сродкаў, утвораны бібліотэкі, выпісаны газэты і г. д., але мала робіцца ў справе аказаньня організацыйна-гаспадарчай дапамогі вёсцы. Няма завостранай увагі гэтаму пытаньню. Мала зьвяртаецца ўвагі замацаваньню і разьвіцьцю існуючых грамадзкіх організацый, як та: КОВ. с. г. і спажывецкай каапэрацыі, ажыўленьню дзейнасьці сельсаветаў, арганізацыі беднаты, сельска-гаспадарчых арцеляй, мэліорацыйных і іншых таварыстваў і іншых. Ёсьць, бязумоўна, у некаторых выпадках, і гэтыя дасягненьні, але яны яшчэ, у агульным ліку, нязначны. Мясцамі некаторыя ячэйкі невыстарчальна ясна резумеюць задачы шэфпрацы, робяць неправільнае адхіленьне ў бок аказаньня матар'яльнай дапамогі, зьмешваючы разуменьне аказаньня організацыйна-гаспадарчай дапамогі з матар'яльнай дапамогай. Такая дзейнасьць у шэфпрацы ставрае ў селяніна няправільнае разуменьне і яна цалкам палагаецца на свайго шэфа, бачачы ў ім свайго роду сабез. Няма дроў для школы, няма печы ў чытальні, няма быка ў вёсцы—аба ўсім гэтым заяўляюць шэфу, спадзяючыся ад яго атрымаць сродкі для здабыцьця гэтага. Такі погляд у корні няправільны і ячэйкі павінны выжываць гэта. Галоўнай прычынай зазначанных недахопаў у шэфпрацы зьяўляецца невыстарчальнае інструктаваньне ў гэтым пытаньні з боку мясцовых партыйных організацый.

Праца сярод жанчын, асабліва ў горадзе з боку Савецкіх ячэек у большасьці выпадкаў астаўляе жадаць шмат лепшага. Ячэйкі мала зьвяртаюць увагі на гэту галіну працы, лічачы яе не першачарговай задачай.

Ёсьць выпадкі: калі доўгі час ня быў вылучан жанарганізатар, а калі гэтакі вылучаецца, то з ліку палітычна мала падрыхтаваных таварышоў, бо больш моцныя ў палітразьвіцьці таварышы лічаць, што гэтай справай займацца ім не да твару. Між тым, праца ў гэтай галіне патрабуе добра падрыхтаванага таварыша, актыўнага і не абавязкова жанчыну, і апроч таго ўмеючага зацікавіць жанчын у грамадзкай працы. Мала праводзіць сходы жанчын з дакладамі аб „8 сакавіку“ або ўтварэньня сярод іх „гурткоў рукамяства“ і дапамогі бяспрытульным дзецям, побач з гэтымі пытаньнямі выносіць на абмеркаваньне жаночых сходаў гаспадарчыя і бытавыя пытаньні з улічэньнем запытаньняў мясцовага жыцьця. Гэта значна ажывіць сход і падыйме іх актыўнасьць і зацікаўленасьць, трэба ўцягваць іх самых у гэту

працу. Напэўна, дзеля гэтага неабходна, каб ячэйкі больш аддалі ўвагі гэтаму пытаньню, мелі-б сталае і цьвёрдае кіраўніцтва гэтай працай, а неабмяжоўваліся-б дырэктывай у пляне сваёй работы накшталт „Узмацніць і паглыбіць працу сярод жанчын“.

*Работа сярод жанчын* аб'яднаемых Савецкай ячэйкай устаноў — у большасьці выпадкаў нават не азначаецца ў плянах прац ячэек, а калі якая небудзь праца і праводзіцца, то выпадкова і ў кампанейскім парадку, г. зн. у дні сьвят, калі склікаюцца агульныя сходы супрацоўнікаў і ставяцца даклады ў дзень Кастрычнікавай Рэвалюцыі, Парыскай Камуны і г. д., 1 мая, або прыцягненьнем нязначнага ліку беспартыйных на адчыненыя сходы парт. ячэек. Кіраўніцтва палітычным жыцьцём беспартыйных далёка невыстарчальнае. Палітгурткоў, профгурткой, і гурткоў самаадукацыі сярод беспартыйных мала арганізуецца. Абмеркаваньняў палітычных і гаспадарчых пытаньняў бягучага моманту на сходах беспартыйных ня бывае і беспартыйная маса невыстарчальна ўцягваецца ў грамадзкую працу. Вечары пытаньняў і адказаў не практыкуюцца, а між тым, гэты мэтад працы бывае іншы раз лепей якога дакладу. Сход па звычайнасьці праходзіць больш жвава і з вялікай цікавасьцю. На гэтых вечарох заўсёды можна ўстанавіць, чым дыша і аб чым думае беспартыйная маса.

*Фармалізм у працы ячэек* яшчэ адчуваецца, так, напр.,—заслухоўваецца даклад (не таму, што ён выклікаецца неабходнасьцю, а вельмі часта таму, што трэба зрабіць які небудзь даклад) аб працы таго або іншага аддзелу, даклад будуецца адцягнута, аб задачах установы, аб правільнасьці яго палітычнай лініі і г. д., але зусім не датыкаецца таго, як даны аддзел або ўстанова вядзе гэту працу ў апараце, якія маюцца недахваты і дасягненьні чаго не хапае ў ёй, аб гэтым менш усяго ідзе размова і ў выніку пагэтаму дакладу спрэчак мала, партмаса не выступае, бо пытаньні не завостраны, а калі і, ёсьць спрэчкі, то не заўсёды заносяцца ў пратакол (што вельмі важна) а за тым, па звычайнасьці, калі даклад не прыймаецца толькі да ведаму, абіраецца камісія для выпрацоўкі рэзалюцыі, а камісія гэту рэзалюцыю прадстаўляе праз месяц-два, а то і зусім не прадставіць. Сама па сабе рэзалюцыя іншы раз нічога не кажа. Ёсьць такія рэзалюцыі ў якіх кажацца: „Даклад прыняць да ведама“. „Даручыць заг. № Аддзелам узмацніць працу ў такой-та галіне або зьвярнуць увагу на тое-та або, пачаць працу па рацыяналізацыі апарату“. Такая, напэўна, рэзалюцыя, нічога роўным лікам, не выражае, нікога нічым не абавязвае і ў агульным выніку, вечар страчан, сход утомлен і ніякіх вынікаў не дасягнута. Праходзіць 6 месяцаў або год—зноў ставіцца той-жа даклад і зноў тыя-жа вынікі. На гэты недахоп працы некаторыя ячэйкі зьвярнулі ўжо сваю ўвагу і выжываюць гэту фармальнасьць, але гэтае яшчэ назіраецца і на гэта трэба зьвярнуць увагу партарганізацый.

*Уплыў на савецкі апарат*, г. зн. у пытаньні паляпшэньня і ўдасканаленьня (рацыяналізацыя) апарату да цяперашняга часу Савецкія ячэйкі ў большасьці сваёй зрабілі вельмі мала. Трэба спадзявацца, што апошняя пастанова ЦК УКП(б) за 9 кастрычніка 1926 г. па пытаньню аб задачах Савецкіх ячэек і ўзяты курс партарганізацыямі на ажыўленьне гэтай асноўнай работы Савецкіх ячэек зробіць прыкметны пералом у гэтых адносінах. Але побач з гэтым неабходна, каб нашы цэнтральныя і акруговыя проф. арганізацыі па лініі профэсыянальнай таксама ўзмацнілі-б кіраўніцтва эканомпрацай у ўстановах і не дапускалі-б такіх зьявішч (а такія выпадкі ёсьць), як ліквідаваньне эканомкамісій па прычыне таго, што яны не апраўдалі сябе.

Трэба яшчэ зьвярнуць увагу на правільнае кіраўніцтва ячэек эканомпрацай, бо назіраюцца выпадкі, калі ячэйка непасрэдна кіруе эканомкамісіяй паміма фракцыі Мясцкому, а Мясцком, у гэтай працы ня прыймае ўдзелу. Ці напр., ячэйка заслухоўвае цэлы шэраг кіраўнікоў аддзелаў установы па пытаньню аб рэжыме эканоміі і дае непасрэдна ім дырэктывы агульнага характару, у выніку чаго няма чакаемых дасягненьняў, ды яны і быць ня могуць, бо правядзеньне рэжыму эканоміі можа быць дасягнута толькі ў выніку правядзеньня рацыяналізацыі, а гэта праца сама па сабе патрабуе пільнай удумлівасьці, прапрацоўкі з прыцягненьнем ня толькі партыйцаў, але шырокай беспартыйнай масы данай установы, значыцца гэту задачу павінен разьвязаць калектыў, мянуемай Эканомкамісія (рабочае ядро) Эканомнарадай пацьвярджаючай правільнасьць прапрацованых пытаньняў і намечаемых мерапрыемстваў для правядзеньня ў жыцьцё праз кіраўнічы склад данай установы.

Вось тыя асноўныя моманты, на якія павінна зьвярнуць сваю ўвагу ўся партыйная маса Савецкіх ячэек.

---

**М. Катушкін**

# Аб партыйна-выхаваўчай працы на вёсцы

*(Па матар'ялам абсьледаваньня вясковай сеткі партасьветы)*

**Падрыхтоўка і выконваньне пляну.** У мінулым 25-26 годзе, як у горадзе так і ў вёсцы школьнай сеткай партасьветы было абхоплена да 60 процантаў нашае парторганізацыі. Асноўны вынік з работы мінулага году такі, што калі ў адносінах колькасьці партвучобы мы і выконваем дырэктывы зьезду, то ў адносінах якасьці яе, гэтага сказаць нельга. Такое-ж становішча мы маем і ў гэтым годзе. Гэты, вялікай важнасьці, недахоп паставіў перад намі задачу на наступны год: палепшыць ідэёвы зьмест партвыхаваўчай працы, падняць яе якасьць не памяншаючы колькасьці, а ў вёсцы нават павялічваючы.

Галоўныя і неабходныя ўмовы для пасьпяховага рашэньня гэтае задачы, як тады здавалася, гэта падбор і перападрыхтоўка прапагандыстых і пявялічэньне сродкаў на партасьвету. З гэтага і была пачата падрыхтоўчая праца. Апрача таго, што ва ўсіх акругах былі праведзены курсы па перападрыхтоўцы прапагандыстых, ЦК арганізаваў двухмесячныя курсы вясковых прапагандыстых, праз якіх было прапушчана 80 асоб. Таксама ЦК павялічыў сродкі на партасьвету на 46 проц. у параўнаньні з мінулым годам. АПА ЦК намеціў сетку партасьветы па акругам, якая была пагоджана на агітпропнарадзе з АПА Акругкомаў. Сродкі і вясковыя прапагандысты, прайшоўшыя курсы, былі сваечасова разьмеркаваны па акругам у залежнасьці ад іх становішча і запатрабаваньня. Але ўсе гэтыя вельмі важныя ўмовы вельмі мала адбіліся як на колькасьці, так і асабліва на якасьці партасьветы. З маючыхся ў нашым распараджэньні матар'ялаў, мы ўжо цяпер можам зрабіць некаторыя вывады аб тым, як выконваецца намечаны АПА ЦК плян партасьветы і наогул як выконваюцца дырэктывы зьезду партыі аб колькасьці і якасьці ленінскай вучобы.

Вось даныя па асноўным школам перасоўкам за першую палову навучальнага году па сямі акругам:

| | Намечана школ па пляну АПА | Якія павінны былі абхапіць | | | | Арганізавана АК школ | Якімі было абхоплена | | | | % выканан пляну ў адносіне партыйцаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Партыйцаў | Комсамольцаў | Беспарт. | УСЯГО | | Партыйцаў | Комсамольц. | Беспарт. | УСЯГО | |
| 1. Бабруйсккая | 6 | 144 | 72 | 24 | 240 | 5 | 61 | 44 | 11 | 116 | 42,7 |
| 2. Мазырская | 5 | 120 | 60 | 20 | 200 | 7 | 68 | 109 | 47 | 224 | 56,6 |
| 3. Калінінская | 6 | 120 | 60 | 20 | 200 | 9 | 192 | 240 | 131 | 563 | 160 |
| 4. Магілеўская | 5 | 120 | 60 | 20 | 200 | 5 | 57 | 61 | 7 | 125 | 47,5 |
| 5. Аршанская | 4 | 96 | 48 | 16 | 160 | 3 | 38 | 51 | 16 | 105 | 40 |
| 6. Полацкая | 6 | 144 | 72 | 24 | 240 | 7 | 58 | 150 | 43 | 251 | 40,3 |
| 7. Слуцкая | 5 | 120 | 60 | 20 | 200 | 6 | 46 | 89 | 16 | 151 | 38,3 |
| УСЯГО | 36 | 864 | 432 | 144 | 1440 | 42 | 520 | 744 | 271 | 1535 | 60,18 |

Як відаць, колькасьць існаваўшых школ перавышае плян на шэсьць адзінак і агульны абхоп імі таксама больш пляну на 95 асоб. Але-ж абхоп партыйцаў, сяброў і кандыдатаў—520 замест 864 па пляну, што складае 60,18% пляну, затое абхоп комсамольцаў дае 172,2% пляну і беспартыйных 188,2%. Выхоўваць політычна вясковых комсамольцаў і беспартыйных сялян—справа добрая, але калі гэта выхаваньне ідзе за кошт не выхаваньня партыйцаў, для якіх галоўным чынам арганізуюцца перасоўкі, дык гэта справа нікуды ня варта. Утрымоўваць вельмі каштоўных 50 перасовак для камсамольцаў і беспартыйных у нас яшчэ няма магчымасьці, а пры такім укамплектаваньні як раз на іх столькі і выходзіць. Трэба адзначыць, што па пляну АПА ЦК партвучобай у гэтых перасоўках павінна было быць абхоплена ўсяго 18% вясковых партыйцаў у сярэднім за першы выпуск.

Па перасоўкам вышэйшага тыпу, на організацыі якіх асабліва настаівалі некаторыя акругі і абхоп якімі намечан плянам усяго 6% вясковых партыйцаў у сярэднім, мы бачым наступны малюнак:

| | Намечана школ па пляну АПА | Якія павінны былі абхапіць | | | | Організаван. школ акругкомамі | Якімі было абхоплена | | | | % выкананьня пляну ў адносіне партыйцаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Партыйцаў | Комсамольц. | Беспартыйн. | УСЯГО | | Партыйцаў | Комсамольц. | Беспартыйн. | УСЯГО | |
| 1. Бабруйская | 2 | 48 | 24 | 8 | 80 | 3 | 39 | 20 | 1 | 60 | 80,1 |
| 2. Мазырская | 2 | 48 | 24 | 8 | 80 | 1 | 14 | 3 | 6 | 23 | 30 |
| 3. Калінінская | 1 | 24 | 12 | 4 | 40 | 1 | 20 | 10 | 11 | 41 | 83,3 |
| 4. Магілеўская | 2 | 48 | 24 | 8 | 80 | — | — | — | — | — | — |
| 5. Аршанская | 1 | 24 | 12 | 4 | 40 | 2 | 30 | 12 | 6 | 48 | 125 |
| 6. Полацкая | 2 | 48 | 24 | 8 | 80 | — | — | — | — | — | — |
| 7. Слуцкая | 1 | 24 | 12 | 4 | 40 | 1 | 9 | 8 | 5 | 22 | 37,5 |
| УСЯГО | 11 | 264 | 132 | 44 | 440 | 8 | 112 | 53 | 29 | 194 | 42,42 |

Тут, як відаць з табліцы, плян наогул ня выканан і асабліва нізкі процант выкананьня яго ў адносіне партыйцаў, для якіх бадай выключна гэтыя школы і адчыняліся.

Калі далей паглядзім на стацыянарныя вясковыя партшколы, дзе больш спрыяючых умоў для вучобы партыйцаў і абхоп якімі быў прадугледжан у сярэднім 28 процантаў вясковай часткі партарганізацыі, то па чатыром акругам яны выглядзяць у наступным: (Гл. табл. на стр. 3).

Як бачым у адносінах абхопу партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйных і тут зьявішча таго-ж парадку, што і па перасоўкам. Па партыйцам плян выконван на 80,35%, а па комсамольцам і беспартыйным на 244,7%. І наогул, па ўсім прыведзеным даным плян выканан: у адносінах партыйцаў (сяброў і кандыдатаў) на 65%, а ў адносіне комсамольцаў і беспартыйных на 174,5%. Чым-жа гэта тлумачыцца? Вядома што і плян, як орыентыровачны, не прэтэндуе на сто процант-

| НАЗВА АКРУГ | Намечана школ па пляну АПА ЦК | Якія павінны былі абхапіць | | | Арганізав. школ акругкомамі | Якія абхапілі на 1 лютага *) | | | % выканан. пляну ў адносіне партыйцаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Партыйцаў | Комсамол. і беспарт. | УСЯГО | | Партыйцаў | Комсамол. і беспарт. | УСЯГО | |
| Бабруйская | 12 | 240 | 60 | 300 | 11<br>4 | 87<br>43 | 87<br>19 | 174<br>62 | 54,2 |
| Мазырская | 10 | 200 | 50 | 250 | 9 | 90<br>116 | 125<br>49 | 215<br>165 | 103 |
| Калінінская | 10 | 200 | 50 | 250 | 6 | 187 | 115 | 302 | 93,5 |
| Магілеўская | 10 | 200 | 50 | 250 | 8<br>6 | 75<br>77 | 96<br>23 | 171<br>100 | 76 |
| УСЯГО | 42 | 840 | 210 | 1050 | 44 | 675 | 514 | 1189 | 80,35 |

нае яго выконваньне. Але апраўдаць такое становішча не рэальнасьцю пляну ні ў якім разе нельга. Паглядзеўшы кожную з паказаных акруг паасобку мы ўбачым, што некаторыя акругі, як Калінінская, выконвалі яго па перасоўкам асноўным на 160%, па перасоўкам вышэйшым на 83% і па стацыянаркам на 93%, адначасова абхапіўшы шмат комсамольцаў і беспартыйных сялян. Пры гэтым адзначаю для яскравасьці, што ўмовы партвучобы ў Калінішчыне ня лепш, а нават горшыя чым у іншых акругах. Нельга таксама тлумачыць гэты недахоп нежаданьнем партыйцаў вучыцца. Яскрава, што прычыны гэтага недахопу перш усяго хаваюцца ў раскіданасьці партыйцаў па адзінкам па вёскам раёну на 20-40 вёрст і ў іх гаспадарчым жыцьці. Але-ж трэба сказаць, што парторганізацыі не дастаткова зьвярнулі ўвагі на організацыю школ, на выбар месца для іх заняткаў, на ўкомплектаваньне іх слухачамі-партыйцамі, на разгрузку апошніх ад розных абавязкаў, на час вучобы і на забясьпячэньне неабходнымі сродкамі. Тыя акругкомы і райкомы, якія гэтыя пытаньні добра вырашалі, добра і правялі партвучобу.

**Якасьць партасьветы**. Ня лепш абстаіць справа і з якасьцю партвучобы. Партыйная школа павінна даць партыйцу ня толькі зразуменьне тых ці іншых пытаньняў сёньнешняга дню, альбо навучыць яго адказваць на тыя ці іншыя пытаньні з падручніка, але і ўясьніць лінію партыі ўва ўсіх конкрэтных пытаньнях па соцыялістычнаму будаўніцтву і да некаторай ступені зарадзіць маладых партыйцаў партыйнымі ленінскімі ідэямі, прынцыпамі, якія-б яны бязухільна праводзілі ў жыцьцё. Трэба сказаць, што такога выхаваньня партыйцы ў нашых школах не атрымліваюць. Акончыўшыя школу партыйцы ў лепшым выпадку ўмеюць адказваць на тыя ці іншыя пытаньні з падручніка, а яскравага прадстаўленьня аб лініі партыі ў кожным асобным выпадку зьвязаным з іх-жа штодзённым жыцьцём і працай, яскравага прадстаўленьня аб сваіх абавязках, як партыйцаў, яны ня маюць. Вынікі абсьледваньня нізавой сеткі партасьветы ў чатырох ак-

*) Назоўнікам паказаны вышэйшыя групы.

ругах сьведчаць аб тым, што *зьмест і якасьць нашае партвыхаваўчай працы ў вёсцы не пасьпявае за ўзростам актыўнасьці ўсіх пластоў вясковага насельніцтва і за ўскладняючыміся ў сувязі з гэтым і ў сувязі з агульным узростам соцыялістычнага будаўніцтва задачамі.*

Ня добра тое, што некаторыя таварышы згаджаюцца з гэтымі недахопамі як з няўхільным зьявішчам, а некаторыя нават ня могуць іх заўважыць і яшчэ горш тое, што на гэты бок справы ў нашай партвыхаваўчай працы мала хто зварачвае ўвагу.

Слабае кіраўніцтва партасьветай, адна з прычын яе слабасьці. Агульныя прычыны нездавальняючай нашай партасьветы хаваюцца часткай у тым, што ўжо сказана аб арганізацыйных недахопах, часткай у слабасьці нашых прапагандыстых, асабліва з мэтодычнага боку, а часткай у той увазе, якую аказалі парторганізацыі на мясцох па кіраўніцтву гэтай вельмі важнай працай. Чым горш умовы працы школ, чым слабей кіраўнікі гэтых школ, тым больш павінна быць кіраўніцтва імі. Тут няма месца для высьвятленьня спосабаў гэтага кіраўніцтва, да яны і вядомы ўсім праводзячым гэту работу. Скажу толькі аб тым, што нават нарады кіраўнікоў школ у пачатку заняткаў ня ўсюды зьбіраліся, а калі зьбіраліся, дык тым горш, таму што як відаць з матар'ялаў, амаль-што ўсюды ў акругах заўважваюцца самыя розныя спосабы ў організацыі, у мэтадзе, у колькасьці дзён і гадзін заняткаў і г. д.

Прыводзім для прыкладу плян працы школ перасовак па Слуцкай акрузе як найбольш яскравы, але тыповы і многім акругам:

| Назва школы па раёну | Колькі дзён займалася | Колькі гадзін у дзень | Навучальны плян у гадзінах | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Аграномія | Прырода-знаўства | Грам.-знаўства | XV партыйная конфэрэнц. | Пленум і зьезд | Іншыя непрадугл. пытаньні | УСЯГО |
| 1. Любаньская . . | 38 | 8 | 20 | 14 | 148 | 60 | — | 34 | 276 |
| 2. Грэская . . | 28 | 7 | 30 | 12 | 75 | 30 | 14 | 15 | ·176 |
| 3. Чырв. Слаб. . . | 28 | 8 | 20 | 20 | 182 | — | — | 2 | 224 |
| 4. Старобінская . | 45 | 8 | 20 | 20 | 250 | 36 | 30 | 4 | 360 |
| 5. Слуцкая . . | 55 | 5 | — | 20 | 250 | 6 | 4 | 20 | 275 |
| 6. Капыльская . . | 29 | 4 | 5 | 12 | 97 | — | — | 2 | 116 |
| 7. Дороск. (яўр) . | 31 | 4 | — | 8 | 100 | 16 | — | — | 124 |

Лічбы непатрабуюць комэнтарыяў. Аднолькавыя школы з аднолькавымі праграмамі займаліся 28 дзён і 55 дзён.

Па аграноміі займаліся 30 гадз., 20,5 і ні воднае.

Па грамадазнаўству—75 гадз. і 250. На прапрацоўку XV партконфэрэнцыі—60 гадз., 4 гадз. і ніводнае. На прапрацоўку пленуму і зьезду КПБ—30 гадз., 4 гадз. і ні воднае. І наогул навучальны плян у гадзінах—116 і 360. З гэтага пляну відаць, што кожны кіраўнік кіраваў, як яму бог на душу палажыў.

У другіх акругах перасоўкі нават займаліся па праграме мінулага году і аб тым, што ёсьць новая праграма ўзнавалі ўжо па сканчэньню

заняткаў. Былі і такія перасоўкі, дзе праграма школы складалася з пяці і шасьці дысцыплін і ў рэшце такія, дзе адну праграму па грамадазнаўству падзялялі на часткі—гістарычную і эканамічную і гэтыя кавалкі аднае праграмы чарадавалі, паміж сабою два кіраўнікі. І ўсё гэта рабілася пад носам райкомаў і не далёка ад акругкомаў. Я ўжо не гавару аб мэтодах заняткаў, якія былі надзвычайна стракаты і часта няпрыгодныя (як лекцыі, пытаньні, адказы, пастаноўка не яскравых расплыўчатых пытаньняў і г. д.), што пры належнай увазе гэтай справе таксама можна было-б своечасова выправіць.

Да ўсяго гэтага далучаецца яшчэ спазьненьне выпуску з друку падручнікаў для вясковых школ перасовак і стацыянарак, што таксама дрэнна адбілася на партвучобе ў вёсцы ў першую палову гэтага навучальнага году. Будзем спадзявацца, што другая палова дасьць болей добрыя вынікі, а пакуль дырыктывы зьездаў партыі і пастановы агітпропнарад пры АПА ЦК аб узмацненьні партыйнага выхаваньня, аб павышэньні якасьці партвучобы выконваюцца яшчэ вельмі слаба.

**Некаторыя вынікі і прапановы**. З усяго сказанага можна зрабіць наступныя вынікі:

1) Партасьветная праца ў першай палове бягучага году праведзена не здавальняюча. А прычыны гэтаму—папершае: недастатковая ўвага парторганаў організацыі вясковых палітшкол, укамплектаваньню іх партыйцамі, на разгрузку апошніх ад розных абавязкаў і на забясьпячэньні іх неабходнымі матэрыяльнымі сродкамі. І падругое—нізкая кваліфікацыя, асабліва з мэтадычнага боку, значнай часткі прапагандыстых і зусім слабае кіраўніцтва іх працай з боку АПА акругкомаў. І ў рэшце не своечасовы выпуск падручнікаў.

2) Школы перасоўкі ў большасьці абслугоўвалі комсамольцаў і беспартыйных сялян, у значнай меры па прычыне не мажлівасьці партыйцам вучыцца ў іх па ўмовам свайго жыцьця і працы, у зьвязку з чым лічыць перасоўку, як масавую палітшколу абслугоўваючую вясковых партыйцаў не магчыма. Гэта форма палітшколы для партыйцаў паступова сябе зжывае. Па гэтаму ў наступным годзе галоўная ўвага павінна быць зьвернута на стацыянаркі, як найбольш апраўдаўшыя сябе ў гэтым годзе. Перасоўкі-ж, задачы якіх абслугоўваць, галоўным чынам, вясковых комсамольцаў і беспартыйных актывістаў, а партыйцаў толькі такіх, якія сапраўды могуць наведваць гэтыя школы, заставіць у меншай колькасьці, што дасьць магчымасьць лепш забясьпечыць іх кіраўнікамі і матэрыяльнымі сродкамі.

3) Да паловы прапагандыстых, у агульным іх складзе, не магчыма дапусьціць у наступным годзе да гэтай працы бяз сталай перападрыхтоўкі. Па гэтаму організацыя ў летні пэрыод кароткатэрміновых курсаў прапагандыстых зьяўляецца адной з неабходных умоў паднядзьця якасьці партасьветы ў наступным годзе.

4) Намечанаю Агітпроп нараду АПА ЦК сумесна з АПА акругкомаў у гэтым годзе неабходна правесьці ня перад пачаткам вучобы, а раней прыкладна ў чэрвені месяцы, што дасьць магчымасьць лепш падрыхтавацца на падставе вучоту вопыту гэтага году.

# ГІСТПАРТ

М. Хатаевіч

## Гомельская бальшавіцкая організацыя

(*З успамінаў*)

Лютаўская рэволюцыя захапіла мяне ў Янісейску, куды тыдні за тры да гэтага мне было дазволена, урэшце, пераехаць з вёскі Маклакава, дзе я адбываў ссылку. Пасьля 4-5 дзён я ў ліку аднэй з першых вяртаючыхся ў Расію партый ссыльных выехаў з Янісейску, спачатку на конях да Краснаярска, а адтуль чыгункай у Пецярбург. У Піцер мы прыехалі 12 сакавіка. Тут я заставаўся трохі больш 2-х тыдняў, уцягваясь пасьля 3-х гадовага перарыву ў бурлівы вір тагочаснай рэволюцыйнай чыннасьці і ўясьняя сабе многае, ад чаго я шмат у] чым адстаў, будучы закінуты ў глухую Сібірскую тайгу. 27 сакавіка я па нараду тагочаснага бюро ЦК знаходзіўшагася ў Пецярбурзе, выехаў у Гомель.

Прыехаў сюды ў канцы сакавіка, я застаў тут толькі адну „аб'яднаную", гэта значыць меншавіцкую с.-д. організацыю на чале якой стаялі два быўшых с.-д. бальшавікі—Сеўрук і Багданаў П. А. Згодніцка-абарончаскія настроі былі тут у поўнай меры. Той факт, што на чале меншавіцкай організацыі стаялі быўшыя старыя бальшавікі яшчэ больш павялічвала сумбур у галаве нават і ў найбольш рэволюцыйных і сьвядомых таварышоў. Даволі сказаць, што нябожчык і загінуўшы пад час Стракапытаўскага паўстаньня тав. Камісараў, якога я першага спаткаў па сваім прыезьдзе, быў так зьбіт з панталыкі гавэндамі аб партыйным адзінстве з меншавікамі і першы, хоць і вельмі кароткі час, не згаджаўся далучыцца да ўтворанай па маім прыезьдзе бальшавіцкай групы.

Асяродкам гэтае групы, складаўшайся ў першыя дні ўсяго з 11-12 асоб былі т.т. Д. А. і Е. Цырліны, а таксама вярнуўшыйся з ссылкі, але прыехаўшы некалькі раней мяне тав. Я. Агранаў. Да нас далучылася некалькі рабочых і работніц былых маіх знаёмых па гуртках 1913-14 г.г. У самым пачатку працы нам прышлося вытрымаць самае шалёнае прасьледваньне і працівадзеяньне з боку меншавіцка-буржуазнага блёку, аб'яднаўшагася дзеля барацьбы з зьявіўшыміся ў Гомлі бальшавікамі, якіх да гэтага часу тут расьпісвалі, як нейкіх страшэнных чуда-зьвярэй. Нашая друкаваная адозва, сродкі на выданьне каторае нам ледзь удалося сабраць, не выпушчалі з друкарні; прыбыўшыя на адрас савету для нас бальшавіцкія газэты („Правда" і інш.) не распаўсюджвалі і нам ня выдалі, у памяшканьнях, якія мы прасілі, нам адмаўлялі і г. д.

На заводах і прадпрыемствах меншавікі розным чынам прасьледвалі паасобных т. т. рабочых, заявіўшых ці чым-небудзь іншым выказваўшым сваё спачуваньне бальшавіком, пры чым справа даходзіла да звальненьня.

Першая наша арганізацыйная сходка адбылася 6 красавіка і налічвала ўсяго 25-30 асоб, з якіх ня больш 8 ці 10 чалавек было старых бальшавікоў, ці прымаўшых удзел у старых бальшавіцкіх падпольных гуртках. Усе іншыя былі рабочыя і жаўнеры, з якімі нам цяпер удалося занова наладзіць сувязь. З іх неабходна зазначыць т. Пеньеўскага, цяпер нябожчыка, загінуўшага ў 1919 годзе на Усходнім фронце, камандуючы Чырвонай дывізіяй (ён атрымаў шмат нагарод за выдатныя баявыя дзеяньні) і тав. Якубава, рабочага-чыгуначніка, цяпер памёршага ад сыпнога тыфусу. На гэтай сходцы нашая бальшавіцкая арганізацыя канчаткова аформілася і сконструіравалася. Мы называлі сябе пераемна Палескай арганізацыяй РСДРП (бальшавікоў), бо такую-ж назву бальшавіцкая арганізацыя насіла тут і ў годы падпольля. Гэтую назву мы рашылі прыняць і дзеля большае адзнакі ад меншавікоў, якія іменавалі сябе „Гомельскай аб'яднанай арганізацыяй с.-д.“. На гэтай сходцы быў вылучан камітэт у складзе 5-ці таварышоў, атрымаўшы назву Палескага камітэту, якому была даручана па магчымасьці выконваць абласныя функцыі, паколькі апрача нас ва ўсім заходнім краі ні было ніводнае бальшавіцкае арганізацыі.

Праца пасьля гэтага, ня гледзячы на нясупыннае і ўзмоцненае працівадзеяньне эс-эра-меншавіцкага савету, пачалася з вагромным напружаньнем і ўздымам і на гэтулькі-ж з вялікім посьпехам. Цераз памянёнага ўжо т. Якубава была ўстаноўлена сувязь з жалезнадарожнымі майстэрнямі і дэпо. Хоць і чорнасоценная тагочасная ж.-д. адміністрацыя і з надта моцнымі там эс-эрамі і меншавікамі, пры агульных варожых адносінах з боку адсталае масы чыгуначнікаў—рабочых і служачых не прыпыняліся ні перад чым у сваім прасьледваньні тав. Якубава і яго прыхільнікаў, мы на працягу 2-х тыдняў прыцягнулі ў шэрагі арганізацыі да 30 рабочых-чыгуначнікаў. Была таксама ўстаноўлена сувязь з іншымі заводамі і прадпрыемствамі.

Але галоўная і найбольш пасьпяховая наша праца праходзіла сярод многіх тысяч жаўнераў Гомельскага гарнізону. У Гомелі тады знаходзіліся вялікія базы і майстэрні (жал. дарожн. зброі, лётніцкія, аўтомобільныя) і спэцыяльныя тэхнічныя часткі войска, абслугоўваўшыя ў той час амаль што ўвесь Заходні фронт. Тут у гэтых базах і частках было занята звыш 10.000 чал., сярод якіх значны процант складалі мобілізаваныя на фронт кваліфікаваныя рабочыя. Сярод гэтай часткі гарнізону мы з першых-жа дзён сваёй працы пачалі карыстацца значным, а затым пераважаючым уплывам.

З найбольшым посьпехам пачалася наша работа сярод 2.000 жаўнераў 3-га карэннага парка, дзе памянёны ўжо т. Пеньеўскі быў абраны хутка-жа старшынёй паркавага камітэту. Да 100 чал. адтуль у працягу 2-х тыдняў, увайшло ў шэрагі нашае арганізацыі, а астатнія ў пераважнай сваёй большасьці бязумоўна пайшлі за намі. Мы ў той час з гонарам, а меншавікі з гіроніяй і прыкрасьцю называлі гэты парк Гомельскім Кронштадтам. Адтуль наша ўвага з гэткай-жа хуткасьцю пачала перакідвацца на іншыя тэхнічныя часткі. К канцу красавіка мы моцна зьвязаліся з жаўнерскай масай 2-ой аўтомобільнай майстэрні Зах. фронту, дзе было да 1000 жаўнераў і 4-м карэнным паркам (больш 2-х тысяч чалавек), з майстэрнямі Варшаўскае акругі шляхоў зносін (150 чал.), з аружэйнымі майстэрнямі Заходняга фронту

300 чал.) і ўсімі іншымі больш дробнымі, распаложанымі ў Нова-Беліцы, тэхнічнымі часткамі. Тут большая частка работы выпала на долю, зараз нябожчыка, загінуўшага пад час Стракапытаўскага паўстаньня т. Ланге, тады жаўнера 2-ой тылав. аўтомобільнай майстэрні і тав. Абрамовіча (майстра Варшаўск. акругі шлях. зносін). У Нова-Беліцы і ў самым горадзе сярод гэтай часткі гарнізону, ня гледзячы на ўсе працівадзеяньні згоднікаў, пераважаўшых нас і тэхнічнымі сродкамі і аратарскімі сіламі, наш уплыў рос і ўмацоўваўся з вагромністай хуткасьцю. Спачатку навокал нас гуртаваліся цесныя невялікія групы больш сьвядомых жаўнераў-пролетараў, сустракаўшыхся ў першыя дні агульную варожасьць і недавер'е з боку ўсёй астатняй масы, але затым лёд гэты хутка ламаўся і на зьмену варожасьці зьяўляліся спачуваньне і сымпатыя. Я пасьля сустракаў многіх з тых таварышоў жаўнераў, тады ўвайшоўшых у шэрагі нашае партыі і на фронце ў якасьці ваенкомаў палкоў і брыгад у шмат якіх кутках Расіі ў якасьці старшынь павятовых Выканкомаў і на іншай адказнай працы.

Адначасова мы імкнуліся пераставіць работу ў іншых частках гарнізону і сярод рабочых і пранікнуць у профэсыянальныя саюзы, але тут посьпех даваўся з значна большай працай. Асобныя рабочыя і жаўнеры ішлі да нас, але ў тыя першыя, пасьля лютаўскіх тыдняў, масы рабочых і жаўнераў яшчэ знаходзіліся поўнасьцю пад уплывам і ўладаю эс-эра-меншавіцкіх лёзунгаў і ілюзій.

Галоўная наша праца ў той час была агітацыя вусная і праз друк. Мітынгі на заводах, у казармах, на пляцох, організуемыя меншавікамі, ці організуемыя і намі самімі, займалі большую частку нашага часу. Ня гледзячы на тое, што оратарскімі сіламі мы былі надта бедны, што на мітынгу, прыкладна ў 3-м карэнным парку ці ў Нова-беліцы, супроць 1 каравага, у сэнсе оратарскіх здольнасьцяй, бальшавіка выступала ня менш паўдзюжыны салодкагласных і добраадукаваных эс-эра-меншавікоў, посьпех у гэтых мясцох амаль заўсёды заставаўся за намі. Оратарскіх сіл у нас у той час было на гэтульکі мала, што кожнаму з нас хто выступаў, прыходзілася штодзённа бываць на 3-4-х мітынгах, пры чым справа не абыходзілася і без таго, каб некаторых з нашых не „пакалачывалі", ні сьцягвалі з трыбуны, ні арыштоўвалі за выступленьні супроць вайны і ўраду Львова—Керанскага. Наша пропаганда праз друк абмяжоўвалася ў выданьні сваіх уласных праклямацый і адозваў і ў перадруку адозваў і рэзолюцый ЦК партыі. Гэта даводзілася нам з асабліва цяжкай працай, бо грошай у нас зусім ня было. Апрача таго мы выпісвалі і самі прадавалі „Правду", што было ў нашых руках адным з лепшых сродкаў агітацыі, бо яна лепш усяго разаблачала хлусьню, якую апавядалі рабочым і жаўнерам згоднікі пра „дзікіх страшыдлаў бальшавікоў". Газэту мы прадавалі беспасрэдна, бо газэтчыкі і апарат распаўсюджваньня друку пры Савеце рабочых і жаўнерскіх дэпутатаў ад гэтага адмовіліся. Продаж „Правды" павялічваў і грашовыя сродкі організацыі і стала аднэй з найбольш салідных крыніц прыбытку для нашае працы. Каб гэтыя сродкі павялічыць, намі 22 красавіка ў „дзень рабочага друку" быў праведзен кружачны збор на карысьць організацыі, які даў каля 6.000 рублёў.




Унутраная організацыйная праца праходзіла ў нас з меншым напружаньнем і тэмпам, чым праца ўне організацыі, агітацыйная. Нават агульныя сходкі організацыі, якія праводзіліся раз на тыдзень, мы больш выкарыстоўвалі для мэтаў агітацыйных, чым організацыйных. Яны праводзіліся адкрытымі па магчымасьці ў вялікіх памяшканьнях, якія мы даставалі толькі з вялікімі труднасьцямі, з дапушчэньнем бес-

партыйных; якія ішлі ў вялікай колькасьці на гэтыя сходкі і нават меншавікоў, калі тут-жа калі-ні-калі ўступалі з намі ў палеміку, што мы ахвотна дапушчалі.

Масы адносіліся да нас тады з вялікім інтарэсам, але ў гэтым інтарэсе было многае, напамінаючае цікавасьць, праяўляемая к дзіковіннаму і страшному.

Першыя тыдні свайго існаваньня організацыя ня мела сталага памяшканьня (бюро), а тулялася па кватэрам асобных таварышоў. Затым мы шляхам захопу зьмясьціліся ў памяшканьні школы па Аптэчнай вул.

Культурнымі інтэлігентымі сіламі організацыя была бедна надзвычайна. Калі пасьля 2-3-х тыдняў па нашым офіцыяльным узьнікненьні да нас далучыліся абладаўшыя параўнаўча высокім разьвіцьцём і ораторскімі здольнасьцямі т. т. Гіндзін (зараз у Маскве) і Леплеўскі (таксама ў Маскве), то гэта аказалася для нас вялікай падмогай.

Колькасна наша організацыя расла надзвычайна хутка.

У першыя тры тыдні—гэта быў найбольш трудны для працы пэрыод, калі згодніцка-абарончаскае паветра насілася ў паветры і атуманьвала мазгі мас,—організацыя павялічылася ад 30—200 чалавек.

Папытка з нашага боку завязаць сувязь па раёну і ўсёй вобласьці дзякуючы адсутнасьці матэрыяльных сродкаў і недахопу добра кваліфікаваных працаўнікоў, не дала асабліва рэчаісных вынікаў, прыходзілася абмяжоўвацца толькі пасылкай літаратуры ды і то па выпадковым адрасам ці з аказіяй.

Адзінай, найбольш блізкай тэрыторыяльнай організацыяй была Кіеўская, з якое першы час мы трымалі сувязь. Яшчэ ў першых чыслах красавіка мы дэлегіравалі тав. Цырліна Д. у якасьці нашага прадстаўніка на обласную партыйную конфэрэнцыю ў Кіеве, якая адбылася паміж 8 і 12 красавіка. Па прыезьдзе адтуль, ён-жа быў паслан на Ўсерасійскую партыйную конфэрэнцыю, адбыўшуюся ў Піцеры ў канцы красавіка.

Сувязь з ЦК партыі, хоць мы і імкнуліся ўстанавіць яе шляхам інформацыі, пасылкі справаздач, запытаньняў, у нас амаль адсутнічала. Да, гэта было натуральна, бо ўсю сваю ўвагу ЦК накіроўваў тады на больш важныя раёны, дзе сконцэнтравана была большая частка пролетарыяту і арміі. Кіраўнічыя палітычныя ўказаньні мы адтрымоўвалі з „Правды". Абы толькі трохі асноўныя палітычныя лёзунгі моманта выяўляліся для нас адтуль, мы без асабліва доўгіх дыскусій зараз-жа прыступалі к дзейнаму сапраўднаму ажыцьцяўленьню іх у самай гушчы мас. Тэзісы Леніна ў „Правде" ад 4 красавіка намі былі ўспрыняты адназгодна, як натуральнае тэорэтычнае заформленьне таго, што няясна бесформенна падсказывалася рэволюцыйным пролетарскім чуцьцём.

Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў у гэты першы лютаўскі кругабег часу быў цалкам і поўнасьцю ў руках згоднікаў. Галоўную ролю там адыгрывалі меншавікі. Ужо памянёны Сеўрук быў старшынёю савету, а Багданаў старшынёю Ваеннай сэкцыі. Эс-эраў, на чале якіх стаялі Рыбін і Астрахан (абое зараз перайшлі ў ВКП(б) і інш. у савеце было значна менш і яны там нават калі-ні-калі будзіравалі, пыталіся разыгрываць опозіцыю. Бальшавікоў у савеце ў першы месяц яго існаваньня ня было зусім. Толькі пасьля нашага сформаваньня, як організацыі, мы, згодна палажэньню, паслалі ад сябе двох прадстаўнікоў, якія ў першыя дні і ўяўлялі з сябе ўсю бальшавіцкую фракцыю. Але на працягу $1^1/_2$-2 тыдняў нам удалася дабіцца перавыбараў у тых воінскіх частках, дзе мы змаглі заваяваць сабе ўплыў, і апрача таго,

згрупаваць навакол сябе некалькі раней ужо абраных членаў савету, не пажадаўшых далучыцца да меншавікоў ці эс-эраў, і ў нас стварылася фракцыя ў 25-30 асоб.)

Аднэй з найбольш важных тады для нас баявых задач было, зразумела, задача ўмацаваньня нашага ўплыву ўнутры савету, адваяваньне яго з пад эс-эра-меншавіцкага і буржуазнага ўплыву, пад каторым ён тады цалкам знаходзіўся. Саветы для нас тады былі і арэнай, на якой з найбольшай яскравасьцю і поўнасьцю і разгортавалася наша барацьба за ўплыў над працоўнымі масамі, і трыбунай, з якой лепш усяго голас нашых агітатараў і пропагандыстых даходзіў да гушчы мас.

(Пасяджэньні савету тады адбываліся надта часта і прыцягвалі шырокую масавую аўдыторыю, якая з вялікай цікавасьцю ўслухоўвалася ў спрэчкі і дэбаты, якія праводзіліся тады, галоўным чынам, па пытаньням вайны, міра і ўлады. Нашы першыя выступленьні ў Савеце выклікалі вялікую сэнсацыю і інтэрас, такой-жа, які выклікала-б зьяўленьне на трыбуне белага мядзьведзя. Нас слухалі з вялікай уважлівасьцю, але ня рэдка перарывалі крыкамі і скандаламі, бо менш усяго мы імкнуліся гладзіць па шэрсьці паноў эс-эраў-меншавікоў і даволі часта гаварылі для іх даволі няпрыемныя рэчы. Галоўнымі нашымі оратарамі на пасяджэньнях Савету выступалі ўжо ўпамянёныя т.т. Гіндзін і Леплеўскі.)

У Выканкоме Савету ў гэты першы пэрыод прадстаўнікоў нашай фракцыі ня было зусім. (Толькі ў маі нам удалося адваяваць тры мейсцы ў Выканкоме.)

Тагочасныя паны становішча, гэта зн. кіруючыя колы меншавікоў і эс-эраў, адносіліся да нас палускэптычна, палубаязьліва.

Старанна пытаючыся падкрэсьліць, што яны нас ня лічаць сілай, з якой трэба было-б лічыцца, яны ўвесь час усімі сваімі паводзінамі даказвалі, што яны наскрозь прасякнуты зласьлівым страхам і варожасьцю да нас. Там, дзе толькі можна было, яны розным чынам перашкаджалі нам працаваць, закрывалі нам доступ у казармы і на заводы, не давалі памяшканьняў, затрудня лі магчымасьць карыстаньня друкарняй і г. д. і г. д.

Мы ў той першы кругабег часу менш ўсяго думалі аб заваяваньні пачэснага становішча і большае да сябе праявы пашаны ў кулуарах Савету, у тагочасных вярхушачных рэволюцыйных органаў. Уся наша ўвага, уся наша энэргія была накіравана на працу ў гушчы мас, у жаўнерскіх і рабочых нізох, дзе мы вялі працу з усім запалам і рэволюцыйнай палкасьцю. Мы ведалі, што самае важнае, гэта заваяваць уплыў, давер'е ў масах, павярнуць гэтыя масы за сабой, што пасьля гэтага ў кіраўнічых органах цэнтр цяжкасьці перасунецца на наш бок. Так яно ў сапраўднасьці і выйшла.

Аграмадны посьпех, якім сапраўджалася тады наша агітацыйная праца сярод мас, прыходзіцца зразумела, перш за ўсё тлумачыць ні нашай добрай працай, ні добрай якасьцю нашых агітатараў і пропагандыстых, а тым, што само жыцьцё, ход рэволюцыйных падзей з кожным днём усё больш разаблачалі перад вачамі нават найбольш адсталых пластоў пролетарыяту і арміі, усю хлусьлівасьць абарончаства і згодніцтва, бязьміласна зрывала з эс-эра-меншавікоў пышныя лахманы, якімі стараліся яны прыкрываць сваю ўбожаскую дробнабуржуазную сутнасьць.

У дзень сьвяткаваньня 1-га мая, быўшыя тады ў поўным упаеньні сваёй магутнасьцю і ўплывам на масы, гомельскія згоднікі ва ўсякім выпадку больш разумныя і дальнавідныя з іх, мелі поўную магчымасьць пераканацца ва ўсёй нятрываласьці свайго бліскучага ста-

новішча. Пад нашымі штандарамі і лёзунгамі, яскрава адзначаўшыяся сваёй рэволюцыйнай рашучасьцю і яснасьцю ад усяго астатняга кісла-салодкага словаслоўя ішло, апрача 200 членаў організацыі яшчэ каля 100 беспартыйных жаўнераў і рабочых, адбіўшыхся ад сваіх організацый, кабісьці з намі пад нашымі лёзунгамі.

Сьледам за намі ішлі тысячнай масай жаўнеры 3-га Караннога парка таксама пад рэволюцыйнымі бальшавіцкімі лёзунгамі. Яскравай адзнакай вылучаліся гэтыя лёзунгі і на іншых штандарах у розных мяйсцох паходу. Выступаўшых пасьля паходу з трыбун нашых ораатараў слухалі ў гэты дзень надта многа і ўважліва.

Пералом у настроях мас тады толькі пачаў сказвацца. Яшчэ няўхільны былі нават сярод больш перадавых і сьвядомых хістаньні і крокі назад, але для ўсякага, хто ўмеў тады ўважліва наглядаць, было ясна, што зорка згодніцтва закатваецца, што сапраўднымі панамі становішча хутка павінны стаць тагочасная наша, на від далёка не прэзэнтабельная, не ўладаўшая вялікімі інтэлектуальнымі сіламі, але дужая сваёй правільнай клясавай лініяй, сваёй рэволюцыйнай настойлівасьцю і рашучасьцю, маладая організацыя.

---

Ужо ў пачатку верасьня наша бальшавіцкая фракцыя ў савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў, хоць і не ўладала большасьцю, але была ўжо дастаткова многалікай. Наша партыйная організацыя налічвала ў горадзе да 8-9 сот членаў. Уплыў наш сярод большасьці вайсковых частак гарнізону быў пераважаючым. Яшчэ пад час Карнілаўскае авантуры ў Магілеве, быўшыя яшчэ офіцыяльна панамі па палажэньню меншавікі, зьвярнуліся да нас з прапановай сумесных дзеяньняў супроць карнілаўшчыны, бо для іх ужо тады станавілася зразумелым, што разьлічваць без нас і паміма нас знайсьці рэальную ўзброеную апору ў гарнізоне нельга было. Мы прынялі тады іх прапанову і дэлегіравалі двох сваіх прадстаўнікоў у створаную надзвычайную пяцёрку ці сямёрку і прынялі найбольш актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах з боку Гомеля для зьліквідаваньня знаходзіўшайся ў нагэтулькі непасрэднай ад нас блізкасьці карнілаўшчыны. Нам тады між іншым, удалося затрымаць шмат карнілаўцаў, якія пасьля няўдачы змовы, імкнуліся міма Гомеля прашмыгнуць з Магілеву, у тым ліку некаторых міністраў Карнілаўскага ўраду. Каб зразумець усё значэньне гэтага звароту да нас за садзейнічаньнем з боку пануючых згодніцкіх партый, каб ацаніць яго з пункту гледжаньня вучоту зьмен у суадносінах сіл, трэба ведаць, што да гэтага адносіны да нас былі нацягнутымі, што пасьля ліпеньскіх дзён у працягу 2-3 тыдняў у срадзе згодніцкіх партый ішлі даволі сур'езныя перамаўленьні аб нашым арышце і мы самі падумывалі аб неабходнасьці перайсьці на нелегальнае палажэньне. Калі гэтага не здарылася, то толькі таму, што нас цярпелі дзеля таго, што баяліся.

Пасьля ліпеньскіх дзён карнілаўшчыны, як і ва ўсёй астатняй Расіі, наша організацыя яшчэ больш умацавалася. Яшчэ больш узмацніўся і ўмацаваўся наш уплыў і аўторытэт ў рабочых і сялянскіх масах і ў такой-жа ступені падаў і падрываўся аўторытэт і давер'е да эс-эра-меншавікоў.

Хоць наша фракцыя ў савеце была найбольш многалікай, але большасьць у ім належала аб'яднаным згодніцкім фракцыям. Большасьць Гомельскіх рабочых у сілу нацыянальных асаблівасьцяў і адсутнасьці ў Гомелі сапраўднага прамысловага пролетарыяту, ішлі

яшчэ за Бундам і іншымі нацыянальна-соцыялістычнымі яўрэйскімі партыямі, якія ўсе ў той час далучаліся да антыбальшавіцкага блёку згодніцкага фронту.

Уся маса служачых і чыноўніцтва (апошняга ў Гомелі было надта многа) і частка рабочых працягвалі складаць верную апору для меншавікоў і с-р. Нашы посьпехі сярод рабочых, хоць і былі надта сутнымі, але расьлі ня з гэткай хуткасьцю, як сярод гарнізону.

Але ў самым гэтым згодніцкім блёку, які спачатку быў вельмі згодным, пачалося перамяшчэньне некаторых сіл у наш бок, і як раз у гэты момант у ім утварылася значная шчыліна. Эс-эры з фракцыі Савету, якія пачалі лявець яшчэ за некалькі месяцаў раней працягвалі гэты процэс лявеньня з надзвычайнай хуткасьцю. Яны даволі часта ў Савеце сталі галасаваць разам з намі і тады меншавікі заставаліся ў меншасьці.

Гомельскія эс-эры, як левыя, так і правыя, жылі тады паміж сабой ў поўным адзінстве і сяброўстве. Яны сумелі разьмежаваць паміж сабой „сфэры ўплыву“ такім чынам, каб „лявізна“ адных не перашкаджала правізьне другіх. У той час, як першыя праяўлялі сябе і сваю лявізну ў гарадзкім Савеце, другія дзейнічалі ва ўсю ў павятовым Савеце сялянскіх дэпутатаў, сустракая там слабое працівадзеяньне з нашага боку і ніякага з боку сваіх левых сатаварышоў па партыі.

У вёсцы, калі мы ў той час і пачалі весьці працу, то толькі выпадковую, бессыстэмную, і, галоўным чынам, толькі недалёка ад Гомеля. Гэта праца абмяжоўвалася распаўсюджваньнем нашай бальшавіцкай агітацыйнай літаратуры.

Для лепшай характарыстыкі той напружанай атмасфэры, ствараўшайся наўкола барацьбы, якую вяла тады наша партыя, і наваколпрацы тагочаснага Савету і таго агромнага інтарэсу, з якім масы адносіліся да гэтай барацьбы, можна прывесьці наступны факт, меўшы мейсца ў сярэдзіне верасьня. У павестку дня пасяджэньня Савету было пастаўлена пытаньне аб вайне і міры. К моманту пачатку пасяджэньня ў памяшканьні Савету (замак быўш. князя Паскевіча) і ў парк, абкружаючы гэтае памяшканьне, зьявілася да 8.000 жаўнераў з Гомельскага перасыльнага пункту, каб прысутнічаць пры абмеркаваньні і вырашэньні гэтага пытаньня. Два вечары да 2-3 гадзін ночы цягнулася палкае абмеркаваньне пытаньня і ўвесь час уся гэта маса жаўнераў заставалася ня толькі ў памяшканьні, якое ледзь умяшчала 1000—1500 чалавек, але і наўкола яго пад адкрытым небам. Калі пасьля 2-х дзённых спрэчак большасьцю ў 2-3 голасы, галасамі меншавікоў, большай часткі эс-эраў і інш. партый супроць большавікоў была прынята нявыразная рэзолюцыя, дзе рэзка і адкрыта не ганьбілася палітыка і не ставілася пытаньне рубам аб адмаўленьні ад удзелу ў вайне сумесна з саюзьнікамі, гэта маса жаўнераў, чакаўшая пастановы савету, як вырашэньня свайго ўласнага лёсу, прыйшла ў моцнае абурэньне і патрабавала перагляду пытаньня. Было немагчыма для савету закончыць пасяджэньне і ўхадзіць, паколькі гэта вялічэзная аўдыторыя жаўнераў зусім ні зьбіралася ўходзіць, паколькі атмосфэра сярод яе была накалёна да самай крайняй ступені. Сярод гэтай масы перасыльных жаўнераў, месяцамі вандраваўшых з аднаго фронту на другі, была не малая колькасьць рознага роду падозронных авантурыстых, якія проста для таго, каб палавіць рыбу ў мутнай вадзе выкарысталі-бы ствараўшымся напружаным становішчам і павышаным настроем, каб выклікаць масу на стыхійныя бурныя эксцэсы. Каб адхіліць гэту небясьпеку, савет працягваў пасяджэньне і аднавіў спрэчкі па

абмеркаванаму ўжо пытаньню, і пад ціскам шматтысячнай масы, пры частцы ўстрымаўшыхся меншавікоў, прымае большасьцю прапанованую нашай фракцыяй рэзолюцыю.

Да рэчы сказаць з Гомельскім перасыльным пунктам у нас клопатаў і вазьні заўсёды было ў той час шмат. Амаль што ні штодзённа прыходзілася бываць там і ўжываць усе спосабы ааратарскага ўплыву, пераканаць і краснамоўства, то дзеля таго, каб прымусіць масу адмовіцца ад таго ці іншага самастойнага выступленьня, пляны якіх узьнікалі там даволі часта, то дзеля таго, каб прызваць яе да падтрыманьня і наогул для правядзеньня сярод гэтых 15-20 тысяч перасыльных жаўнераў тэй-жа агітацыйнай працы, што вялі мы сярод іншых частак гарнізону.

К канцу верасьня эс-эры ў Гарсавеце нагэтулькі палявелі, што амаль па ўсім пытаньням галасавалі разам з намі і мы стварылі ў ім параўнаўча моцную эс-эраўскую бальшавіцкую большасьць. Пры выбарах на праходзіўшым у Менску Заходнім абласным зьезьдзе Саветаў, ад Гомельскага Савету ўжо не прайшло ніводнага абаронца. Было абрана 3 бальшавікі і 2 левых эс-эры: пры выбарах на праводзіўшуюся ў Пецярбузе дэмократычную нараду ад Гомельскага Савету былі абраны ад нашай фракцыі т. Леплеўскі і адзін левы-эс-эр.

Фізіономія гэтых левых с.-р. была яшчэ надзвычайна неадзначальнай і не высьветлена; у сваёй уласнай партыйнай організацыі яны надта добра ўжываліся з самымі заядла-правымі с.-р., накшталт д-ра Цьветаева і інш. і прадстаўляўшых ім поўную свабоду дзеяньня.

У падрыхтоўчай кампаніі да 2-га Ўсерасійскага Зьезду Саветаў, Гомельскі савет па ўсім аснаўным пытаньням аб вайне, аб уладзе і зямлі прыняў нашы, бальшавіцкія, рэзолюцыі. Было абрана 2 дэлегаты: бальшавік і левы с.-р., якім быў дадзен наказ дабівацца пераходу ўсёй улады ў рукі саветаў. Тады-ж быў пераабраны Выканкомсавету і ў значнай большасьці туды былі абраны левыя: наша-ж фракцыя атрымала 6 месц з 15 і 2 мейсцы ў прэзыдыуме.

Пры атрыманьні першых адрывачных паведамленьняў аб праходзіўшым 25 кастрычніка ў Пецярбурзе перавароце, і а бегстве Керанскага, аб Вікжэле і г. д., узварушэньне і радасьць, а разам з тым і трывога сярод нашай бальшавіцкай організацыі, сярод усіх жаўнераў гарнізону і значнай часткі рабочых былі моцныя. Амаль ва ўсіх частках гарнізону і на шмат якіх прадпрыемствах удалося правесьці рэзолюцыю спачуваньня і рашучага падтрыманьня праходзіўшаму ў Пецярбурзе перавароту. Жаўнеры рваліся ў бой, патрабавалі безадкладна весьці іх супроць Керэнскага, і нам трэба было пакласьці шмат працы, каб стрымаць іх. Найбольш рэволюцыйныя вайсковыя часткі былі пераведзены на баявое палажэньне і сапраўды былі гатовы па першаму нашаму клічу ўступіць у бой. Тады-ж намі былі сфармаваны першыя атрады Чырвонай гвардыі, узброіўшы ружжамі і рэвольвэрамі, якія мы ўзялі рэволюцыйным шляхам з базы зброі Заходняга фронту, 400 чал. рабочых, членаў нашае партыі і спачуваючых.

Згоднікі таксама ўзварушыліся і, апіраючыся, галоўным чынам, на Гарадзкую думу і на павятовы савет сялянскіх дэпутатаў, бо з гарадзкога савету рабочых і жаўнерскіх дэпутатаў яны былі на 3/4 выцесьнены, сталі весьці рашучую кампанію супроць перавароту, прымаючы рэзолюцыі аб падтрыманьні Часовага Ўраду, распаўсюджваючы рознага чыну хлусьлівыя зьвесткі аб праходзячых падзеях ў Пецярбурзе аб перамогах Керэнскага, генэрала Краснова і г. д.

А ў сэнсе атрыманьня правільных зьвестак аб сапраўдным ходзе падзей, мы, сапраўды, аказаліся ў самым цяжкім становішчы.

Засеўшая ў Магілеве ў стаўцы разам з ген. Духонінем купка правых эс-эраў (Гольман і інш.) у тым ліку і спэцыяльна прыехаўшы туды Чарноў рассылалі, з мэтай унясеньня распаду і няўпэўненасьці ў рэволюцыйныя масы рабочых і сялян, па ўсёй краіне, вымышленыя тэлеграмы і паведамленьні аб перамогах Керэнскага, аб няўдачы перавароту, аб тым, што провінцыя і фронт не падтрымалі перавароту, які бязухільна абрачон на няпосьпех. У нас, у Гомелі пасьля атрыманьня першых паведамленьняў непасрэдна з Пецярбургу ў ноч на 26 кастрычніка больш ніякіх зьвестак аж да самага заканчэньня боек з войскамі генэр. Краснова пад Пецярбургам не паступала. Таксама нічога ня было вядома, якое становішча спраў і іншых мясцовасьцяй рэспублікі і на фронце. Ішлі толькі трывожныя чуткі аб крывавых бойках на вуліцах Масквы, аб тым, што чыгуначнікі ў асобе Вікжэля, прад'явілі новай уладзе ўльтыматум з пагрозай забастоўкі і аднначасова дзюжынамі атрымоўваліся провокацыйныя тэлеграмы з Магілеву, паведамляўшыя аб безнадзейным становішчы і няўхільнай няўдачы кастрычнікавага перавароту. Трудна абмаляваць тое становішча вялічэзнага ўзварушэньня і трывогі, у якім знаходзіліся мы, а разам з намі ўсе рэволюцыйна настроеныя масы ў гэтыя дні.

28 кастрычніка было склікана пасяджэньне Савету, на якім павінны былі выявіцца адносіны Гомельскіх рабочых і жаўнераў, да праісходзячых падзей і павінна было быць вырашана пытаньне, ці далучыцца Гомель да перавароту, праведзенаму 2-м Усерасійскім Зьездам Саветаў і Піцерскімі рабочымі і жаўнерамі ці не. Пасяджэньне гэтае была надзвычайна многалюдным. Будзе не фразай, а самай сапраўднай рэчавістасьцю, калі сказаць, што трудна знайсьці тыя словы, якімі можна апісаць тое нязвычайнае напружаньне і ўзбуджана-уважлівае становішча і настрой, якое панавала на гэтым пасяджэньні. У той вечар ня было таго звычайнага шуму, крыкаў і воплескаў, якія раней панавалі на ўсіх пасяджэньнях савету. Спрэчкі былі надзвычайна палкімі, к канцу іх была апавешчана толькі што атрымная з Магілеву новая тэлеграма аб тым, што казакі Краснова, пры садзейнічаньні паўстаўшых унутры гораду юнкероў вашлі ў Петраград, што імі абкружан ужо Смольны, што Ленін бяжаў і што большая частка членаў бальшавіцкага ўраду ўжо арыштованы. Гэта тэлеграма была заслухана маўкліва і, напэўна, шмат хто з тых, што прысутнічалі на гэтым пасяджэньні не забылі і доўга не забудуць гэтага моманту і таго становішча, якое перажылі яны тады. Пасьля агалашэньня тэлеграмы былі заслуханы яшчэ раз прадстаўнікі ўсіх фракцый, затым значнай большасьцю галасоў была прынята прапанованая нашай фракцыяй рэзолюцыя, вітаўшая праісшэдшы пераварот і абяцаўшая ад імя гомельскіх рабочых і жаўнераў поўнае падтрыманьне ўноў створанаму рэволюцыйнаму рабоча-сялянскаму ўраду. Па прыняцьці гэтае рэзолюцыі маўкліва, у сасрадаточана-ўдумлівым становішчы члены савету разыйшліся.

Два дні пасьля гэтага панавала яшчэ мінулая цяжкая невядомасьць і неапрадзялённасьць становішча. Толькі 30 кастрычніка былі атрыманы, урэшце, некалькі больш падрабязговыя зьвесткі аб перавароце 25 кастрычніка і аб справаждаўшых яго ў Пецярбурзе і Маскве падзеях. У той жа дзень было атрымана радыё тав. Троцкага аб перамозе, атрыманнай пад Пулкавым піцерскімі рабочымі над войскамі ген. Краснова, аб захопе гэтага генэрала ў палон і аб бегстве Керэнскага. Аднначасова з усіх канцоў і частак краіны і з усіх фронтаў ішлі паведамленьні, што рабочыя і жаўнеры ўсюды з вялічэзным энтузіаз-

мам сустракаюць вестку аб пераvароце, што ўсюды ўлада пераходзіць да саветаў без супраціўленьня з боку згоднікаў і агентаў Часовага Ураду.

Было зноў склікана ўрачыстае пасяджэньне савету, сумесна з павятовым выканкомам сялянскіх дэпутатаў, на якім большасьцю галасоў была ўхвалена аб пераходзе ўсёй палітычнай улады ў горадзе і павеце ў рукі саветаў і аб безварунковым ухіленьні і арышце ўсіх агентаў і прадстаўнікоў Часовага Ураду, якія не пажадаюць гэтага прызнаць. Была прынята таксама пастанова аб неабходнасьці ў бліжэйшым часе правесьці агульныя перавыбары савету і яго выканкому. Гэтыя перавыбары былі праведзены ў лістападзе і далі нам абсолютную большасьць мейсцаў у Савеце і Выканкоме.

Гомельскія згоднікі не пашлі па пятам сваіх маскоўскіх і пецярбурскіх сабратоў, не выступалі актыўна з зброяй у руках супроць кастрычнікавага перавароту. На славах жа і ў друку яны як толькі маглі кляймілі яго, называлі авантурай, салдацкім паўстаньнем, справакаваным бальшавікамі, якое цераз некалькі дзён павінна была закончыцца поўным крахам. Яны ня кідалі працаваць у савеце і ў выканкоме, выступаючы па кожным пытаньні з даўгімі і ня цікавымі прамовамі.

Пастановай таго-жа пасяджэньня савету быў створан ваенна-рэвалюцыйны камітэт у складзе 9-ці асоб, у які вайшло 4 члены нашай фракцыі, 2 левых с.-р. і па аднаму прадстаўніку ад некаторых іншых фракцый. Гэтаму ваенрэвкому было даручана фактычна ажыцьцявіць пераход улады к саветам.

Фактычнае становішча рэчаў у першы час пасьля кастрычнікавага перавароту зьмянілася ў нас у Гомлі надта мала, бо і раней да кастрычніка, уся рэальная палітычная ўлада ў горадзе належала Савету і ўсе маўкліва гэтую ўладу прызнавалі. Адразу пасьля перавароту Савет прыняў на сябе некалькі асноўных функцый агульнага кіраўніцтва горадам і паветам, выдаў некалькі загадаў, даючы дазвол на права нашэньня зброі, кіраўніцтва-жа большасьцю гарадзкіх і павятовых установ, фактычна прадаўжала заставацца ў працягу шэрагу некалькі тыдняў у руках гарадзкой думы і павятовай земскай управы. Толькі паступова і даволі нязграбна, з апаскай падыходзілі мы да неабходнасьці ўзяць у свае рукі адну за аднэй часткі адміністрацыйнага і гаспадарчага апарату. Цалкам гэта праца канчатковага пранікненьня Савецкай Улады ва ўсе куты і закуткі старога апарату і перабудовы яго на новы Савецкі лад ня была закончана нават к моманту эвакуацыі савецкіх органаў пры наступленьні немцаў у лютым 1918 г.

У павеце непасрэдна пасьля перавароту ўлада ад правых с.-р. перайшла к левым, ці больш верна некаторая частка правых адразу стала левай, а другая ўхілілася ад працы ў павятовым савеце сялянскіх дэпутатаў і аддалася цалкам агітацыі перад выбарамі ў Устаноўчае Сабраньне. З віду ідэёвае кіраўніцтва і ўплыў у арганізацыі с.-р. перашло к тым з іх, каторыя раней стаялі на чале левага крыла. Але хоць палітычна наша вёска больш туга, чым горад прыняла ідэю і сэнс кастрычнікавага перавароту і прызнала яго, але дэкрэт аб зямлі, выданы 2-м Усерасійскім Зьездам Саветаў, быў з надзвычайнай хуткасьцю ажыцьцяўлён тут самымі сялянамі без садзейнічаньня і ўказаньня гораду. У працягу 3-х тыдняў большасьць абшарнікаў і іх кіраўнічых ці арандатары прымушаны былі з вялікай пасьпешнасьцю пакінуць свае сядзібы, уся іх зямля і інвэнтар перайшлі ў рукі сялян, пры чым справа не абыйшлася без разгромаў і падпалаў шмат якіх абшарніцкіх маёнткаў і рознага роду іншых эксцэсаў.

Першае захапленьне перамогай прайшло. Пачалася трудная, страдная пара будаўніцтва новых формаў жыцьця ў надзвычайна цяжкіх варунках. З партыі, якая галоўную сваю задачу бачыла ў разбурэньні існуючага, у рэволюцыйнай барацьбе супроць старога, мы адразу сталі партыяй, ажыцьцяўляючай і адстаіваючай панаваньне працоўных, у партыю, якая галоўную сваю задачу бачыць у будаўніцтве і ў стварэньні новага. Замест барацьбы супроць улады буржуазіі і коаліцыі, трэба было ўмацоўваць сваю пролетарскую ўладу, рыхтавацца да таго, каб адстаяць яе ад шалёнага наскоку старога сьвету, набліжэньне і няўхільнасьць каторага ў той момант многія адчувалі.

Наша партыйная арганізацыя, ня хісталася і не асабліва доўга разважаючы, прыступіла да гэтай новай сваёй працы, да вырашэньня тых новых задач, якія паўсталі перад ёю. Ня было вопыту і дастатковай здольнасьці, было шмат наіўнасьці і лішняга захапленьня вонкавым, у некаторых была адсутнасьць цьвярозага вучоту об'ектыўнай абстаноўкі і адсутнасьць разуменьня ўсёй велічыні і цяжкасьці, якую мы паклалі сабе на свае плечы. Але гэта была беззаветная рэволюцыйная рашучасьць, быў энтузіазм і вера ў перамогу, была цьвёрдая рашучасьць да канца ажыцьцяўляць і праводзіць у жыцьцё толькі тое, што дыктуецца інтарэсамі пролетарыяту, была жалезная пролетарская спайка і дысцыпліна і з гэтым багажом мы сьмела выходзілі насустрач вялічэзным труднасьцям, выходзілі на шлях, па якому да нас ня ступала яшчэ ні водная партыя ў сьвеце.

---

Г. Лелевіч (Л. Магілеўскі)

# Кастрычнікавыя дні ў Магілеве

*(Адрывак з успамінаў)*

## I. Магілеўская контр-рэволюцыя

Магутная хваля Пролетарскай Рэволюцыі не адразу дакацілася да Магілеву.

У Петраградзе і Маскве ўжо даўно рэяў чырвоны штандар комунізму, а ў Магілеве ў працягу трох тыдняў панавала чарнасотніцка-згодніцкая хэўра.

Прычын для гэтага было больш, чым дастаткова.

З аднаго боку ў Магілеве тыпавым, адсталым, мяшчанскім гарадку, няма значных кадраў сьвядомага рэволюцыйнага пролетарыяту, з другога, контр-рэволюцыя зьвіла ў ім занадта моцнае асінае гняздо.

Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага захавала склад часоў Мікалая II і Карнілава і зьяўлялася гняздом самай чорнай царысцкай рэакцыі.

Пры ім знаходзіўся агульнаармейскі камітэт, даўно не зьмяняемы, адарваўшыйся ад мас і насіўшы яскрава-згодніцкі характар.

Урэшце, Магілеўскі Савет меў пераважную згодніцкую большасьць.

Усе гэтыя організацыі былі асноўнымі ячэйкамі магілеўскай контр-рэволюцыі, і пры слабасьці і несьвядомасьці мясцовага пролетарыяту яны маглі некаторы час супраціўляцца чырвонай хвалі, кацяшчайся з Петраграду.

## II. Першая вестка

Раніца 26 кастрычніка (па старому стылю)... „У Петраградзе паўстаньне бальшавікоў... Атрымана паведамленьне“, нэрвова паведамляе мне спаткаўшыйся на вуліцы знаёмы эс-эр...

Я сьпяшаюся да будынку быўшага дваранскага сабраньня на Тэатральным пляцу, дзе зьмяшчаецца Савет.

Там—хваляваньне,

Мітусяцца члены Выканкому, Савету, Камітэтаў, партый...

Сюды едуць дэлегаты петраградзкага ваенна-рэволюцыйнага камітэту, паведамляе адзін.

— Арыштаваць іх, павесіць!—у шаленстве крычыць, увесь пачырванеўшы з надуўшыміся на скіўіцах жыламі, бундавец Любанскі.

Воклічы абурэньня, пагрозы...

— Пронунцыямэнта! Авантура! Нямецкія шпіёны!—так і сыплецца з усіх бакоў.

Разьярона, іступленна накідваюцца ашалеўшыя згоднікі на прыхільнікаў Кастрычнікавае рэволюцыі.

Так спаткаў Вялікую Пролетарскую Рэволюцыю „передавы атрад“ магілеўскага пролетарыяту.

Зьвякаюць шпоры. У памяшканьне выканкому ўваходзяць, бліскаючы золатам пагонаў, некалькі афіцэраў з стаўкі.

Варты саюз згодніцкіх і золатапагонных белагвардзейцаў!

## III. Сход Савету

28 кастрычніка ў памяшканьні гарадзкой управы—сход Савету.

Усе лаўкі заняты.

Заля і хоры біткам напоўнены публікай.

На пляцформе Савецкай улады з ліку гэтага аграмаднага сходу стаіць невялікая купка таварышоў: некалькі бальшавікоў, с.-д. інтэрнацыяналістых і ППС (лявіца).

Сход пачынаецца.

Правы эс-эр, жаўнер Георгіеўскага батальёну Бялевіч агалашае атрыманыя ім, як ад часовага ўраду, так і ваенна-рэволюцыйнага камітэту, тэлеграмы аб петраградзкіх падзеях.

З доўгаю прамоваю выступае правы эс-эр доктар Капысьцінскі, даказваючы, што бальшавізм гэта—масавая псыхічная зараза; накшталт дзіцячага крыжавага паходу, сэкты бічуючыхся і т. п.

Бурныя воплескі сходу пакрываюць гэту белагвардзейскую мудрасьць.

Калі-ж таварышы Ўсанаў, Хахлоў, Лазінскі, Залмансон у рэволюцыйных баявых прамовах характарызуюць здрадніцкую політыку коаліцыйных урадаў і даказваюць няўхільнасьць Кастрычнікавае Рэволюцыі, сход спатыкае іх сьмехам і шумам.

У разгары спрэчак у залі зьявіўся прыехаўшы з Петраграду быўш. Старшыня Магілеўскага Савету сялянскіх дэпутатаў вядомы, як „крайні левы“ і пасаджаны раней Керанскім у турму, прапаршчык Гольман.

Яму прадастаўляецца слова.

І што-жа? І гэты „крайні левы“ напаўняе сваю прамову хлусьнёй на вялікія падзеі 25 кастрычніка.

— „Кастрычнікавая рэволюцыя—ваенная авантура“...—„Троцкаму—месца ў Сібіры“!!!

І ўсё ў тым-жа напрамку.

Тав. Залмансон хоча выступіць з пярэчаньнем.

— „Я прапаную спыніць спрэчкі... Усё роўна кожны чэсны бальшавік павінен адмежавацца ад петраградзкай авантуры,—заяўляе Гольман.

Слова т. Залмансону не даюць...

Прымаецца рэзолюцыя, патрабуючая стварэньня „дэмократычнага міністэрства“.

А пасьля зачыненьня сходу, да групы бальшавікоў падыходзіць высокі вайсковец.

— Не падайце духам, таварышы!—говорыць ён, ціскаючы рукі. Цяпер вы—у меншасьці. Але хутка вы будзеце ў большасьці.

## IV. У Выканкоме

Вечар... Пакой Выканкому напоўнены народам.

Кіпяць жвавыя спрэчкі!

— „Дзіўна! Ленін усё жыцьцё пісаў супроць дробна-буржуазнай эс-эраўскай програмы, а цяпер узяў, сьцягнуў яе і выдае за сваю“... іранізуе Гольман.

„Бальшавікі вядуць да таго, што я зноў на катаргу пападу. А мне гэта надаела. Хопіць!—крычыць правы эс-эр Шэбло.

— Зразумела, Ленін і К°—нямецкія шпіёны. Іначай яны зьявіліся-бы на суд, а яны скрыліся"—тут-жа шыпіць Бялевіч.

Побач спрачаюцца правы эс-эр Засорын і бальшавік-георгіевец т. Хахлоў.

„Тав. Хахлоў, заяўляе, урэшце, Засорын, у Карнілаўскія дні мы з вамі дзейнічалі разам, а цяпер між намі ляжыць бяздоньне".

Тав. Хахлоў сумна ківае галавой.

Гэта—праўда.

Тут-жа перапалоханы эс-эрык Б—й паведамляе:

— Зараз атрымана паведамленьне. У Петраградзе — анархія. Бальшавікі ўжо скінуты п'янымі граміламі. Петраград ахоплен агнём. Ідуць рабункі, п'янства...

## V. Контр-рэволюцыя за працай

Генэрал Духонін, як вядома, адмовіўся распачаць перамаўленьні аб пераміры і адмовіўся выйсьці ў адстаўку.

Калі тав. Крыленка прапанаваў Магілеўскаму Савету ўзяць уладу і ўхіліць Духоніна, выканком прыняў ганебную рэзолюцыю аб непрызнаньні тав. Крыленкі і аб „кляйменьні яго ганьбай".

Агульнаармейскі камітэт і выканком уступіў у сьціслую сувязь з стаўкай, ствараючы з ёй адну чорнасоценную банду.

Для „абароны" гэтых гнёздаў контр-рэволюцыі ў Магілеў уступіў ударны полк.

Ударнікі маршыравалі па гораду з сьпевамі: „боже царя, за Русь, за веру"!

## VI. „Усерасійская ўлада"

Не здавальняючыся простым супраціўленьнем Савецкае ўлады, агульнаармейскі камітэт пытаўся ўтварыць у Магілеве згодніцкі „ўрад" на чале з „цымервальдцам" Чарновым.

У Магілеў прыехалі Чарноў, Скобелеў.

8 лістапада (па стар. стылю) Чарноў выступіў на сходзе ПСР з доўгай фразістай прамовай.

Кастрычнікавую рэволюцыю ён разглядаў, як абіральны трук бальшавікоў для атрыманьня большага ліку галасоў пры выбарах ва Устаноўчы Збор.

Глыбокадумнае, сур'ёзнае тлумачэньне!

Навуковы аналіз!

У заключэньне Чарноў паведаў, што ён зусім не жадае ўлады але, калі партыя ўскладзе на яго гэты цяжар, ён падначаліцца.

Усё-ж, утварыць „урад" не ўдалося, і правадыры згодніцтва пасьпяшылі ўбрацца.

## VII. Інформацыя

Першы час сталічныя газэты атрымоўваліся акуратна, і ў газэтных кіоскаў цягнуліся доўгія хвасты. Хутка, аднак, газэты перасталі атрымоўвацца.

Карыстаючыся гэтым, Карнілаўскі лісток „Могилевская Жизнь" зарабіў ва ўсю.

То ён паведамляў, што Петраград узят Керэнскім, то, што такія то палкі (называліся імёны) выступалі супроць Савецкай улады, то, што забіты т.т. Ленін і Троцкі.

Ад „Могилевской Жизни“ не адставалі і „рэволюцыйныя“ організацыі Магілеву.

Агульнаармейскі камітэт, выканком, к-ты ПСР, „Бунда“, СС, НС пачалі выдаваць бюлетэні.

Гэтыя бюлетэні (іх выйшла каля 20) уяўляюць з сябе адзін з ганебнейшых дакумантаў.

Зразумела, актаў Савецкай улады яны не друкавалі.

Зато поўнасьцю зьмяшчаліся акты Рады, Каледзіна, союзных аташэ, „Камітэту паратунку“ і таму падобнае.

Друкаваліся хлусьлівыя паведамленьні аб захопе Петраграду юнкерамі, аб перамогах Керэнскага.

## VIII. Бура ідзе

Настрой у горадзе станавіўся ўсё больш трывожным.

Чорная сотня зьбіралася з сіламі.

Хадзілі чуткі аб рыхтуючымся пагроме, называлі нават тэрмін.

Ударнікі сваім настроем пацьвярджалі гэтыя чуткі. Але вось данесьліся весткі, што рэволюцыйныя войскі на чале з тав. Крыленкам ідуць на Магілеў, каб зьмесьці Духоніна і яго прысьпешнікаў.

Жыхары (абывацелі) з жахам чакалі боек пад горадам і шапталі: „Вось бяда! Прыдуць бальшавікі, рабаваць і рэзаць будуць. Канец прыйшоў“.

## IX. 18 лістапада

Раніца 18 лістапада...

„Стаўка хацела бяжаць і затрымана“,—крычыць, убягаючы т. Г.

—„Што? У чым справа?—пытаюся я.

— Стаўка зьбіралася выехаць ў Кіеў, адказвае ён, ужо выносілі рэчы на аўтомобілі,—яны і зараз на пляцу ляжаць,—але падыйшлі георгіеўцы і заявілі, што стаўкі ня выпусьцяць.

Вечар таго-ж дня...

У агульнай зале Савету сабраліся прадстаўнікі гарнізону.

Заля біткам напоўнена публікай.

У памяшканьні выканкому тым часам ідуць нарады фракцый.

Сабраўшыяся ў залі з нецярплівасьцю чакаюць пастановы выканкому.

Наступае ноч.

У залі хваляваньне, стаіць нясьціхаючы гоман.

Урэшце, уваходзяць прадстаўнікі выканкому.

Запанавала цішыня.

Гарадзкі Выканаўчы Камітэт пастанавіў далучыцца да Савецкай улады. Вылучаецца ваенна-рэволюцыйны камітэт, у складзе наступных таварышоў...

Чытаюць прозьвішчы: Хахлоў, Усанаў, Брыльён, Гонікман і інш.

Гром воплескаў.

Пасьля кароткіх спрэчак склад рэўкому зацьвярджаецца.

Прадстаўнікі шэрагу армій, прыехаўшыя з фронту, каб замяніць адарваўшыхся ад мас згоднікаў з агульнаармейскага камітэту, гавораць баёвыя палкія прамовы.

Залю аглушаюць агнёвыя гукі „Марсэльезы“.

Урачыстая вялікая хвіліна: Магілеў стаў савецкім горадам.

Але ўзьнікае пытаньне, як-жа гэта савецкія згоднікі раптоўна так пачырванелі?

Прадастаўляем вырашаць яго гісторыі, напомнім толькі, што войскі тав. Крыленкі падыходзілі к гораду.

### X. Магілеўскі Кастрычнік

На заўтра ўдарнікі пакінулі горад.

— Чаго вы ўходзіце?—спытаў я аднаго з іх.

— „Ня хочуць нас тут! Што мы гвалтоўна будзем, што-лі?“—адказаў ён.

А на другі дзень гадзіне а 11 па вуліцам, па напрамку да стаўкі прашоў першы атрад рэволюцыйных войск.

Цераз гадзіну па вуліцам пацягнуліся шэрагі матросаў.

У чорных шапках, цёмных шырокіх шынэлях з ружжамі за плячыма яны здаваліся ўяўленьнем магутнасьці.

Пражужжэлі аўтомобілі, ашчаціненыя штыхамі.

Чырвоная раць займала горад.

Група матросаў, угледзеўшы ў вітрыне магазіну паперы паштоўкі з портрэтамі Мілюкова, Керанскага і інш., зайшла ў магазын і загадала ўбраць іх.

Гаспадар магазыну, дрыжучы, падначаліўся.

Гадзіны 3...

Унізу ў сходаў зьмясьцілася оркестра георгіеўскага батальёну.

Жужжа пад'езджае к памяшканьню Савету аўтомобіль, саправаджаемы грузавіком з узброенымі матросамі.

Оркестра ўдарае „Марсэльезу“.

Па сходах хутка ўбягае тав. Крыленка, у саправажджэньні невялікай сьвіты, сярод якой вылучаецца орыгінальная фігура вайсковага ў сінім мундзіры, пагонах паручніка і сіней фуражцы з чырвоным аколышам,—фігура вядомага Шнэдра.

Рэволюцыйны галаўковерх праходзіць у пакой рэўкому.

Калі ён выходзіць адтуль, да яго падыходзяць з лагодным выглядам двое нейкіх саюзных афіцэраў.

Разам яны выезджаюць у стаўку.

„Які жах! На станцыі забіты Духонін!“—паведаміў мне таварыш вечарам таго-ж дня.

Аказалася, што на вакзале разыгралася кашмарная трагэдыя.

У той-жа дзень у Магілеве стала вядома, што напярэдадні з Быхава бяжалі знаходзіўшыяся там пад вартай генэралы: Карнілаў, Дэнікін, Лукомскі, Маркаў і інш.

Гэтая вестка страшэнна наэлектрызавала матросаў і, калі Духоніна прывезьлі на вокзал ён быў забіты, не гледзячы на протэсты тав. Крыленкі.

Гэтым вечарам ужо выйшаў першы нумар бюлетэню рэўкому, замяніўшага старыя хлусьлівыя бюлетэні.

Магілеўскі Кастрычнік ажыцьцявіўся.

# НА МЯСЦОХ

Б. Васільлеў

## Аб працы сельскіх саветаў

(*Мазырская акруга*)

Значна павысіўшаяся палітычная актыўнасьць сялянства, пры бязумоўна ўзрастаючай кіруючай ролі беднаты ў гэтым росьце патрабуе ад нас перш за ўсё змагчы правільна выкарыстаць гэтую растучую актыўнасьць.

Як першачарговая задача дзеля гэтага высоўваецца паляпшэньне працы нашых Саветаў, па лініі работы каторых перш за ўсё павінна быць выкарыстана здаровая актыўнасьць батракоў, беднякоў і серадняцтва.

Асабліва неабходна завастрыць гэтую задачу—ажыўленьня і паляпшэньня працы Саветаў, калі неабходна адразу-ж, работай Саветаў, замацаваць дасягнутыя намі посьпехі на перавыбарах.

У нас маецца павялічэньне партыйнага асяродку ў складзе с/саветаў. Калі мы па акрузе ў 1926 г. мелі у складзе с.-с. 7,5% і ў складзе старшынь с.-с. 32,1% камуністых, то ў 1927 г. ў складзе пленумаў процант павялічыўся да 10,3% і ў складзе старшынь да 45%.

Узрасла ўдзельная вага беднаты ў складзе с.-с. Так, калі мы мелі ў 1926 г. звольненых ад падатку 4,2%, то ў 1927 г. 32%.

Прадпасылкі для працы бязумоўна палепшыліся. Наша задача вучэсьць вопыт усёй мінулай працы Саветаў з тым, каб на гэтай аснове будаваць працу ўноў абраных Саветаў.

Аб чым-жа нам гаворыць вопыт мінулай працы сельскіх саветаў? Перш за ўсё ў частцы партыйнага кіраўніцтва.

**Партыйнае кіраўніцтва.** Трэба агаварыцца, што ў абсолютнай большасьці с.-с. па акрузе нельга стварыць фракцый (большасьці с.-с. маюць у сваім складзе 1-2 членаў ці толькі кандыдатаў партыі). Гэта ў значнай ступені ўскладняла і ўскладняе ажыцьцяўленьне правільнага партыйнага кіраўніцтва работай сельсаветаў.

Частка партячэек лічыць, што калі ў с.-с. ёсьць 1-2 комуністыя, то гэтым партыйнае кіраўніцтва забясьпечана і шэраг парт'ячэек не заслухоўвалі дзеля гэтага ні разу дакладаў аб рабоце сельсаветаў.

Шэраг партячэек пры заслухоўваньні дакладаў с.-с. выносяць занадта „агульныя“ пастановы, якія з посьпехам можна даць любому с.-с. па ўсёй акрузе. Напрыклад, па гэткаму важнейшаму пытаньню, як ажыўленьне працы камісій с.-саветаў, пастановы абмяжоўваюцца: „Узмацніць працу камісій“. Вось адзін з абразчыкаў такога роду кіраўніцтва: пастанова *Сімонавіцкай ячэйкі* Лельчыцкага раёну па справаздачнаму дакладу с.-с.: „У далейшым неабходна: 1) правесьці хут-

чэй рамонт школы і снабдзіць яе дрывамі; 2) узмацніць узысканьне с.-гасп. падатку і страхоўкі; 3) наладзіць сувязь з л-вам; 4) ажывіць працу камісій пры Сельсавеце.

Ёсьць, праўда, і ў гэтай галіне некаторае ўзрушэньне ў бок паляпшэньня. Прыводзім толькі адзін з шэрагу прыкладаў:

Пастанова *Рэмізаўскай ячэйкі,* Каралінскага раёну. Праца с.-с. хоць і атрымала ўзрушэньне ў бок паляпшэньня, але ўсё такі ў далейшым неабходна: выканаць с.-гасп. падатак і страхавыя плацежы, прыпыніць драпежніцкія вырубкі лесу мясцовага значэньня, якія маюць месца ў в. Дзьвіжкі і Аляксандраўцы. Палепшыць і паглыбіць працу камісій пры Сельсавеце. Прывесьці трыер і правесьці ачыстку насеньня. Папулярызаваць і імкнуцца к пасеву культурных траў. Культкамісіі весьці працу па растлумачэньню сярод членаў машыннага таварыства аб тым, каб яны наведвалі заняткі с.-гасп. гуртка заахвочваць машыннае таварыства і аказаць яму садзейнічаньне ў ажыцьцяўленьні намечанага ім пляна на бягучую весну.

Маюцца выпадкі, калі партячэйкі заслухоўваюць даклады беспартыйных старшынь с.-с. (па дагаворанасьці), але тут бываюць такія казусы, што ячэйка па дакладу ня выносіць ніякіх пастаноў аб далейшай працы для таго, каб гэтыя пастановы маглі быць выкарыстаны с.-с. у сваёй далейшай працы. Гэта, бязумоўна, значна зьмяншае значэньне гэтых дакладаў.

Задача, якая стаіць перад намі ў гэтай галіне—значна палепшыць партыйнае кіраўніцтва ячэек с.-с., уносячы ў гэтае кіраўніцтва больш сыстэматычнасьці, праверкі выкананьня пастаноў і што самае галоўнае—гэта кіраўніцтва павінна быць не „агульным“, а практычным, выходзячым з мясцовых умоў і магчымасьцяй, вучытваючы важнейшыя моманты, высоўваемыя партыяй у працы Саветаў на кожны пэрыод.

**Ажыўленьне Саветаў**. Як абстаіць у нас справа практычнага праламленьня партыйных дырэктыў аб ажыўленьні Саветаў?

Бязумоўна, што ў гэтай галіне некаторыя вынікі ўжо маюцца.

Папершае, у частцы ўзмацненьня як працы, так і значэньня Пленуму сельсаветаў. Напрыклад, Астражанскі с.-с., Лельчыцкага раёну правёў за год 11 пленумаў, на якіх вырашаліся важнейшыя пытаньні працы Саветаў, як-та: даклады коопэрацыі, школы, зямельныя, пытаньні аб лясох мясцовага значэньня і г. д. Значна паднялася актыўнасьць членаў сельсаветаў на саміх Пленумах.

Некалькі наладзілася плянавасьць работы як Пленумаў, так і прэзыдыумаў Сельсаветаў.

З другога боку паступова, праўда яшчэ даволі ціха, пачынаюць разьвіваць сваю работу камісіі пры с.-с. Па акрузе (па ня поўнаму вучоту), апрача членаў с.-с. уцягнута ў камісіі—855 актывістых—сялянбатракоў, настаўніцтва і г. д., з гэтых 855 чал. 106 жанчын і з усіх каля 38% прымаюць удзел у працы да аднаго году, гэта зн. актыў, недаўна ўцягнуты ў працу камісій. Ёсьць ужо і конкрэтныя дасягненьні ў працы камісій. Так, у Рэмізаўскім с.-с., Каралінскага раёну ў в. Дзьвіжкі па ініцыятыве коопэрацыйнай камісіі адчынена крама спажывецкага таварыства; у Астражанскім с.-с., Лельчыцкага раёну па ініцыятыве тэй-жа камісіі арганізована сялянская арцель у ліку 70 асоб для лесараспрацовак.

Дасягненьні маюцца і па агульнай рабоце Саветаў. Напрыклад, Галоўчыцкі с.-с., Нараўлянскага раёну купіў дом, дадалі лесу і пабудавалі аднокомплектную школу ў в. Буда; Ст.-Высоцкі с.-с., Каралінскага раёну—купіў дом і пабудаваў новы будынак пад 2-х комплектную школу;

Сімонавіцкі с.-с., Каралінскага раёну—у мінулым годзе распачаў і ў гэтым годзе закончыў пабудову памяшканьня для 2-х комплектнай школы.

Як відна, с.-саветы пачынаюць станавіцца правадніком растучай здаровай актыўнасьці сялянства.

Усё-ж, побач з гэтымі недахопамі яшчэ значна больш дасягненьняў.

Галоўныя, на якіх нам асабліва трэба завастрыць увагу, гэта *якасьць працы сельсаветаў.* Папершае, і прэзыдыум і Пленум с.-с. праходзяць надзвычайна неарганізавана, пытаньні да іх амаль не падрыхтоўваюцца, часта ставяцца ў процэсе самога пасяджэньня, перагрузка асабліва пленумаў вялікай колькасьцю пытаньняў, адсюль і надзвычайна слабая прапрацоўка (а часта і адсутнасьць яе) пастаноў, вынасімых с.-с. Як прыклад, можна прывесьці Кабылішчанскі с.-савет, Азярыцкага раёну, дзе на адным Пленуме былі пастаўлены такія пытаньні: 1) даклад аб працы школы, 2) даклад зямельна-лясной камісіі, 3) даклад комунальнае камісіі, 4) аб сельска-гасп. падатку, 5) разьмеркаваньне бясплатнага лесу, 6) аб страхоўцы, 7) запытаньне розных дырэктываў РВК. Па шмат якім з гэтых пытаньняў вынесена пастанова: „працу адобрыць, даклад прыняць да ведама“.

У адносінах уцягненьня членаў с.-с. у працу камісій асноўная ўвага павінна быць зьвернута на *павышэньне адказнасьці за работу.* Члены с.-с. даволі часта ніякай нагрузкі ня маюць, камісіі падбіраюцца часта, габінэтна, формальна, бяз вучоту жаданьня вылучаемых у гэтыя камісіі, адсюль і адсутнасьць адказнасьці ў працы. Вось, напрыклад, культкамісія пры Лучыцкім с.-с., Капаткевіцкага раёну, пастанавіла адчыніць хату-чытальню ў в. Капцэвічы, а практычна ніхто з членаў камісіі ці с.-с. нічога не зрабіў і добры замер застаўся толькі замерам.

Што яшчэ зьніжае адказнасьць—гэта амаль-што адсутнасьць справаздачнасьці паасобных членаў с.-с. Справаздачы праводзяцца толькі за працу ўсяго сельсавету перад самымі перавыбарамі. *Больш справаздачнасьці, больш адказнасьці* перад абіральнікамі кожнага члену Савету—павінна быць ажыцьцяўлена ў працы нашых Саветаў у поўнай меры.

**Плянавасьць працы і праверка пастаноў.** Нашы сельсаветы яшчэ ў надта малой ступені праламілі партыйную дырэктыву аб тым, што „асяродкам усёй нашай працы павінны быць пытаньні гаспадарчыя“ і гэта галоўным чынам тлумачыцца раскіданасьцю працы с.-саветаў, недастатковая плянавасьць, ня вучот важнейшых задач, якія стаяць перад Саветам на вядомы кругабег часу.

Ёсьць яшчэ сельсаветы, якія працуюць без усякіх пляноў, у шэрагу Саветаў замест пляноў пішуцца дэклярацыі накшталт таго, як Пціцкі с.-с., Капаткевіцкага раёну ў частцы культпрацы ў пляне піша: „Культкамісіі с.-с. правесьці сярод насельніцтва кампанію па растлумачэньню аб вялікім значэньні газэт, якія распаўсюджваюць павышэньне культурнага разьвіцьця сялянства і дапамагаюць сялянству хутчэй падыйсьці да культурнага вядзеньня сельскае гаспадаркі і набліжэньня *да соцыялізму*“ і г. д., а практычнай задачы на плянавы пэрыод не паказвае.

Усё-ж, шэраг Сельсаветаў пляны складаюць ужо даволі практычна. Так, напрыклад, Кабыльшчанскі сельсавет у сваім пляне на 1927 г. высоўвае: 1) па падрыхтоўцы вясеньняй пасяўной кампаніі правесьці своечасова сходы, падрыхтаваць да гэтага насельніцтва; 2) закончыць канчаткова пабудову шляхоў і мастоў; 3) для пабудаваньня школы ў Кабыльшчане з грамадзкага дому ў Забалоцьці правесьці кампанію па

перавозцы апошняга; 4) правесьці рэвізію лясоў мясцовага значэньня ў раёне сельсавету; 5) высьвятліць пытаньне аб арганізацыі машынных таварыстваў у раёне сельсавету; 6) высьвятліць пытаньне аб арганізацыі школы ў пасёлку Віша.

Ці Пціцкі с.-савет: 1) ізхадайнічаць і падрыхтаваць дровы для школ; 2) заслухаць справаздачны даклад спажыв. Таварыства адзін раз у тры м-цы; 2) прасіць РВК аб пабудове мастоў па шляху Пціч-Калінкавічы; 4) прасіць РВК аб хутчэйшым лесе для пабудовы бані ў с.-с.; 5) ва ўсіх вёсках паставіць супроць пажарную працу на належную вышыню, дзеля, чаго пастарацца, каб ва ўсіх вёсках была неабходная колькасьць багроў, драбін і г. д.

На што трэба зьвярнуць увагу—гэта на ўнядрэньне ў плянавую працу сельсаветаў вырашэньня на месцы *практычна* асноўных пастаноў партыі і Савецкай улады. Трэба, каб такія пытаньні, як рэжым эканоміі, зьніжэньне цэн, барацьба за рацыяналізацыю апаратаў, разьвіцьцё пасеваў спэцыяльных культур і траў, вытворчае кооперавань-не сялянства і г. д.—находзілі сабе месца ў плянах, так і ў працы сельсаветаў. А то мы, напрыклад, у пляне працы Пціцкага с.-с. маем толькі „намёк" на гэтую працу.

Напрыклад: „Правесьці працу па растлумачэньню сярод сялян аб значэньні масавага ўступленьня сялян у коопэрацыю і што толькі гэтым адным можна дабіцца неабходнага зьніжэньня цэн на прадметы шырокага спажываньня".

Яшчэ адзін момант, які патрабуе да сябе асаблівае ўвагі—гэта пытаньне аб праверцы выкананьня пастаноў. У нас ёсьць такі прыклад, калі колькасны с.-с., заслухаў даклад Заг. Школай, нават не паслаў яму для выкананьня сваю пастанову па дакладу. Праверка выкананьня сваіх пастаноў значна падымае аўторытэт с.-с. сярод насельніцтва.

**Клясавая лінія ў працы**. Мы правялі і праводзім вялікую працу з беднатой як у галіне ўзьняцьця яе палітычнай актыўнасьці, так і ў частцы экономічнай дапамогі ёй. Гэтая нашая праца павінна знайсьці свой поўны адбітак у працы новых Саветаў. Ці ўсё ў нас абстаіць добра ў справе правядзеньня ясна-выразнай клясавай лініі ў працы сельветаў?

Даволі прывесьці адзін прыклад, для таго, каб упэўніцца ў адваротным. У зьвестках, якія прадстаўлены з месц у РВК на яго запытаньне аб сялянскім актыве, уцягнутым у працу с.-с., прыводзяцца даныя, што якасьць актыву—ўцягнута 41 заможных. Гэта даволі паказальна ў тых адносінах, наколькі працаўнікі с.-с. яшчэ ня ўсвоілі клясавай палітыкі партыі ў вёсцы. На гэты бок трэба будзе сконцэнтраваць асноўную ўвагу.

Трэба зараз-жа прыступіць да ўзмацненьня груп беднаты ў с.-с. з тым, каб падняць удзельную вагу беднаты ва усёй працы с.-с. з тым, каб сама бедната прыняла актыўны ўдзел у працы Саветаў, як арганізаваная сіла супольна з серадняком.

Трэба ў той-жа час яшчэ раз падкрэсьліць неабходнасьць усямернага ўзмацненьня партыйнага кіраўніцтва Саветамі.

Гэтым мы даб'ёмся ўнядрэньня клясавай лініі ў працы нашых Сельскіх Саветаў.

---

Г. Ш—ль

# На пленумах мясцовых парткомаў

## Пленум Гомельскага Акругкому

Апошні пленум Гомельскага Акругкому ўдзяліў асобую ўвагу пытаньню аб бліжэйшых задачах партарганізацыі ў сувязі з рашэньнем X зьезду КП(б)Б, адзначыў шэраг труднасьцяй, якія стаяць перад партарганізацыяй на бліжэйшы час (гаспадарчыя замінкі, павялічэньне беспрацоўя, ускладненьне работы ў сувязі з правядзеньнем у жыцьцё новых задач высунутых X зьездам КП(б)Б).

Пленум даў шэраг дырэктыў у галіне растлумачэньня асноў нац. палітыкі партыі ў горадзе і ў вёсцы, практычнае правядзеньне беларусізацыі, узмацненьне работы сярод інтэлігенцыі, барацьбы з беспрацоўем, зьнішчэньне труднасьцяй гаспадарчага парадку, паляпшэньне масавай і ўнутрыпартыйнай работы.

Пленум падвёў вынікі прашоўшай справаздачнай кампаніі саветаў. Справаздачная кампанія сельсаветаў у значнай меры дзякуючы ліквідаваньню губэрні і рэарганізацыі апарату—прашла слаба. Адзначаецца рост самадзейнасьці, ініцыятывы і здаровай крытыкі з боку рабочых і сялян, але побач у гэтым расьце і актыўнасьць кулацтва, якая прыняла ў гэтым годзе больш арганізацыйны характар. Пры гэтым тактыка кулацтва ў гэтым годзе некалькі іншая—кулакі прабуюць праводзіць свае мерапрыемствы досыць асьцярожна, цераз іншых. Пленум канстатаваў слабую актыўнасьць жанчын, слабы ўдзел беспартыйнага сельскага актыву, моладзі, а таксама грамадзкіх арганізацый вёскі (ККОВ, каапэрацыі, профсаюзаў) і даў шэраг дырэктыў у адносінах правядзеньня перавыбараў.

Па пытаньню аб становішчы і пэрспэктывах сельска-гаспадарчай каапэрацыі і сельскай спажывецкай каапэрацыі, пленум прызнаў дзейнасьць усёй сыстэмы с.-г. каапэрацыі слабай і процант каапэраваньня сялянскіх гаспадарак не выстарчальным, адзначыў слабы грашовы і арганізацыйны стан с.-г. крэдытнай сеткі, цяжкае становішча колектыўных гаспадарак. У адносінах спажывецкай каапэрацыі пленум даў шэраг дырэктыў па іх замацаваньню; у прыватнасьці Пленум даў дырэктыву аб узмацненьні каапэрыраваньня, узяўшы напрамак на ахапленьне да новага гаспадарчага году да 60% усіх гаспадарак.

## Пленум Калінінскага Акругкому

Лютаўскі пленум акругкому падвёў вынікі перавыбараў сельсаветаў па акрузе. Па дакладу разгарнуліся вельмі ажыўленыя спрэчкі. Усе выступаўшыя адзначалі цэлы шэраг недахопаў кампаніі, рост актыўнасьці ўсіх пластоў сялянства, у прыватнасьці адзначалася новая „тактыка“ кулакоў: кулакі ў гэтым годзе выступалі арганізавана, „нах-

рапам", але стараліся асьцярожна праводзіць сваё. Гарачыя спрэчкі выклікалі пытаньні аб магчымасьці прадастаўленьня серадняком права галасаваць на сходах беднаты.

У прынятай па дакладу рэзалюцыі Пленум прызнаў лішняе для сераднякоў права голасу на сходах беднаты, нават у тых выпадках, калі большасьць на сходзе складала бедната—недахопам праведзеных сходаў. У агульным Пленум адзначыў своечасовую і ў асноўным выстарчальную падрыхтоўку да перавыбараў, узмацненьне ў выніку праведзенай работы з беднатой—бядняцка-серадняцкага блёку, значны рост актыўнасьці беднаты, але яшчэ большы рост актыўнасьці серадняка, пасыўныя адносіны інтэлігенцыі да перавыбараў, слабы ўдзел батрацтва, дзякуючы слабой падрыхтоўчай рабоце сярод яго, слабы ўдзел ККОВ, а таксама выпадкі арганізаваных выступленьняў кулацтва, імкненьня з іх боку захапіць кіраўніцтва сельсавету. Пленум таксама адзначыў выстарчальны ўдзел партарганізацый, рост аўтарытэту партыі, павялічэньне ў складзе с/с ліку партыйцаў на 2,8% і колькасьці камсамольцаў на 2,1% (усяго партыйцаў у с/с 12,7%, камсамольцаў—11,1%. Старшынь с/с партыйцаў і комсамольцаў 62%).

Асаблівую ўвагу Пленум удзяліў пытаньню аб паляпшэньні савецкага і каапэрацыйнага апарату і барацьбе з бюрократызмам і валакітай. Пленум намеціў шэраг мерапрыемстваў па ажыўленьню працы с/с, разгрузцы іх ад лішніх канцэлярскіх заданьняў і паляпшэньня кіраўніцтва з боку Райвыканкомаў, упарадачэньне работы нізавой каапэрацыйнай сеткі і інш. Ажыўленыя спрэчкі разгарнуліся на пленуме вакол пытаньня аб прыгоднасьці ўжываньня мэтаду адазваньня неапраўдаўшых сябе членаў с/с. Выступаўшыя таварышы выказываліся супроць прыгоднасьці гэтага мэтаду.

Вялікую ўвагу пленум удзяліў дакладу аб стане парт'асьветы ў партыйнай і камсамольскай арганізацыях. Побач з значнымі дасягненьнямі (значнае разгортваньне сеткі і здавальняючае матар'яльнае становішча яе, узмацненьне кіраўніцтва з боку ОК і іншых), Пленум адзначыў шэраг недахопаў: слабы ўдзел некаторых РК у організацыі і комплектаваньні школ, позьняя прысылка дапамогі, невыстарчальная ўвага з боку ячэек і іншых. Пленум даў шэраг паказаньняў па зьнішчэньню зазначаных недахопаў і паляпшэньне далейшай работы сеткі партадукацыі.

**Пленум Бабруйскага Акругкому КПБ**

На апошнім Пленуме Бабруйскага Акругкому стаялі даклады аб выніках Перавыбараў с/с, аб становішчы с.-г. каапэрацыі і аб росьце організацыі.

У выніках перавыбараў с/с, Пленум адзначыў выстарчальную падрыхтоўчую работу з боку АК, РК і фракцыі АНК і РВ К-аў.

У дапамогу вясковым ячэйкам было паслана 38 адказных працаўнікоў; праведзена 271 сход беднаты (у мінулым годзе 132), 104 сходы сялянак, адзначан таксама вялікі ўдзел у падрыхтоўчай і прадвыбарнай кампаніі партарганізацый, павышэньне кіраўнічай ролі партячэек на вёсцы, адсутнічаньне фактаў праяўленьня хвасьцізму з боку ячэек (за выключэньнем паасобных членаў партыі). Партсклад у с/с павялічыўся супроць мінулага году ў 6,4% да 11,1%, у складзе старшынь с/с—з 28,3% да 41,4%. Пленум адзначыў значную работу, праведзеную з беднатою (на праведзеных 271 сходах амаль поўнасьцю прысутнічала бедната—72%), значнае павышэньне беднаты, узмацненьне бедняцка-серадняцкага блёку. Побач з гэтым Пленум адзначыў да-

